PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (2257) Год XLIV Беласток 15 жніўня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Гульня ахвярамі

Пасля рэйду Бурага Надзея Хвашчэўская з Краснага Сяла засталася ўдавой з трыма дзецьмі. Ніколі не дастала ніякай рэнты ці ўспамогі. Пасля сарака дзевяці гадоў пазнала месца, дзе быў закатаваны яе муж. Яшчэ праз два гады Камітэт сем'яў пабітых вазакоў эксгумаваў астанкі ахвяр на месцы злачынства ў Пухалах-Старых і на каталіцкім могільніку ў Кліхах (куды большасць касцей перавезлі ў 1951 годзе) і перавёз на вайсковыя могілкі ў Бельску.

— Сніўся мне мой чалавек. Прыходзіць і кажа: не бядуй, я ўжо маю выгодны дом, — плача Надзея Хвашчэўская. — Стольк і нявінных людзей пабілі, а мы не можам ім нават помнік паставіць.

30 жніўня, у другую гадавіну перапахавання вазакоў, паніхіду над супольнай магілай адслужылі а.а. Ян Шмыдкі і Юльян Дуда. Узвышаецца над ёй капец зямлі з кветкамі і праваслаўны крыж з плітой, на якой памешчаны трыццаць прозвішчаў. Камітэт, аднак, не можа пабудаваць заказанага ў каменшчыка помніка. Бо няма на яго згоды ўлад. Ні Падляшскага ваяводства, ні Міністэрства ўнутраных спраў.

Вайсковыя могілкі ў Бельску былі раней могілкамі толькі салдат Савецкай Арміі. Ляжыць там звыш дзвюх тысяч чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1944 годзе на Бельшчыне. Над могілкамі ўзвышаецца насыпаны ў 1992-94 гадах курган з каталіцкім крыжам (разам 16 метраў вышыні), які завяршае крыжовую дарогу польскага народа ў змаганні за незалежнасць. З другога боку, прыхаваны ў кустах, стаіць помнічак салдатам КБВ (Корпус унутранай бяспекі), якія змагаліся з польскай незалежніцкай партызанкай у першыя пасляваенныя гады. А магіла ні ў чым не правіннейшыхся людзей — якія, хоць ні з кім не ваявалі, былі па-бандыцку забіты — не можа быць належна ўшанавана.

*У 45-ым і 46-ым на Беласточчыне гарэлі беларускія вёскі, лілася беларуская кроў. Мой народ у тым змаганні не стаў ні пераможцам, ні пераможаным. Ён, што й казаць, не мае шанцаў займець героя тае пары. Яму засталіся на памяць магілы ахвяраў у не-айчыннай зямлі.* (Ян Максімюк *Кашмар, ад якога не прачнуся*, „Ніва", 7.07.1991)

Магілы дазваляюць жыць памяці не толькі пра ахвяр, але і пра злачынцаў. Чаму на помніку не можна іх назваць, калі не падлягае сумневу, хто скаляў свае рукі нявіннай крывёй? Чаму памятная пліта мусіць ляжаць роўна з травой, як прапануецца ўладамі, калі побач стаяць манументы?

Вакол помніка непрыемным пахам дае знаць пра сябе палітыка. Быццам працягваецца ідэалагічная вайна 1945-46 гадоў. На рашэннях адных палітыкаў грэюць рукі іх апаненты. Бедных беларускіх мужыкоў укідаюць у адзін мяшок з савецкімі салдатамі і замацоўнікамі народнай улады. А чым тая народная ўлада дапамагла Надзеі Хвашчэўскай? Можа паказала магілу мужа? Альбо гадавала дзяцей?

**Мікола ВАЎРАНЮК**



*Усе чакаюць камбайна (Сяргей Сяверанюк з Махнатага).*

# Час жніва

**Аляксей МАРОЗ**

Калі ў поле выедуць камбайны, пачынаецца сапраўднае жніво. Толькі зрэдку можна ўбачыць яшчэ жняяркі або збожжа ў снапах. Хаця сёлета надвор'е для жніва добрае, не пашанцавала з плёнам, які намнога горшы чым у мінулых гадах. Засуха і грыбніца зрабілі сваё і ссохлае зерне цяжка куды-небудзь прадаць.

Даўней у час жніва ад раніцы да змроку працавала ўся сям'я, цяперашнімі днямі на сонцы пякуцца толькі камбайнеры. Гаспадары нервуюцца чакаючы сваю чаргу і прыезду камбайна. Праца пачынаецца тады, калі збожжа ўжо змалочанае, калі трэба вазіць салому і брацца за ворыва. Асабліва неспрыяльныя ўмовы для жніва ў тых вёсках, дзе няма камбайнаў і трэба ездзіць за імі ў суседнія мясцовасці.

У гэтым годзе жніво пачалося раней чым у мінулых гадах і Агенцтва сельскагаспадарчага рынку не паспела са скупкай. Іншыя пакупнікі плацяць намнога менш і некаторыя гаспадары стрымаліся з малацьбой.

**Жніво ў калгасе**

Калі заязджаю ў Сельскагаспадарчы прадукцыйны кааператыў, што ў Старым Корніне, адразу сустракаю старшыню Аляксандра Чапко. Ён паясняе, што трэба выкарыстоўваць добрае надвор'е і працаваць дацямна. Збожжа, якое толькі што змалацілі, высыпаюць у свой склад.

— У бельскім „Элевары", дзе збожжа хоча купляць Агенцтва, чарга трактароў з прычэпамі ўжо даўжэй кіламетра, а няма яшчэ грошай на скупку. Згодна з пагадненнем, якое падпісаў урад з сельскагаспадарчымі прафсаюзамі, павінны плаціць па 460 злотых за тону пшаніцы і яшчэ даплачваць пасля 50 злотых. Аднак купля ў іх абмежаваная. Плануюць купіць у Бельску тры тысячы тон пшаніцы і шэсцьсот тон жыта, — тлумачыць старшыня А. Чапко. — Два нашы камбайны жнуць ад раніцы да вечара, а пасля ссыпаем зерне ў свае склады. Збожжа ў нас больш за 350 гектараў. Выжалі ўжо жыта, жнем пшаніцу, а засталіся яшчэ ячмень ды авёс. Калі сваю пшаніцу вазілі мы правяраць у Бельск, аказалася, што пасля прасеву на спецыяльным сіце застаецца 82-83% збожжа, а глютэну ў сартах Альмары і Соква па 32-35%.

Так як і ў мінулым годзе Агенцтва заявіла, што будзе купляць пшаніцу, у якой прынамсі 26% глютэну і 75% збожжа застаецца на сіце пасля прасеву. Пасля сёлетняй засухі зерне ссохлае, дробнае — мала гаспадароў можа разлічваць, што іх збожжа атрымае сертыфікат, будуць прымушаны прадаваць яго на корм.

— На тое, што сёлета ніжэйшы плён, паўплывала не толькі засуха, але і грыбніца. Хаця пшаніцу два разы апырсквалі ад грыбніцы, плён крыху ніжэйшы за мінулагодні. Калі летась намалочвалі каля 4,5 тоны з гектара, то сёлета каля 4,2 тоны. Грыбніца знішчае лісце, праз якое вада хутка выпараецца ды не хапае яе для зярнят, і тыя сохнуць. Сёлета і дажджу малавата было на ярыну. Плён будзе намнога меншы, бо пасля пасеву было холадна і мокра, а яшчэ і дождж прыбіў. Летась быў рэкордны плён ячменю, па 6 тон з гектара; аб такім не можам сёння марыць. Жыта сеем на землях 5 і 6 класаў, на пясках, то і плён з яго невялікі, па 1,8 тоны з гектара, — дэталёва расказвае спадар Чапко. — Каб захаваць добры плён, неабходна добрае ўгнаенне. Малібдэн, манган ці медзь даем на лісце ў час апырсквання.

[працяг ☞ 3]

## Сябры, жахлівы наш саюз!

Пра расійска-беларускі саюз гавораць ужо пяць гадоў. І не толькі гавораць: у яго рамках падпісана ўжо некалькі соцень двухбаковых дагавораў, пагадненняў і пратаколаў. Аднак да адзінай дзяржавы яшчэ сто гадоў...

[аналіз ☞ 2]

## Мы і на волі нявольныя

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Міжнароднага Пэн-клуба Уладзімір Някляеў ужо больш за месяц знаходзіцца ў Польшчы. Нейкі час таму ў сродках масавай інфармацыі паявілася вестка, што Някляеў збіраецца папрасіць палітычнага прытулку ў Польшчы, паколькі ў Беларусі яго творчая дзейнасць знаходзіцца пад пагрозай. Але пісьменнік не збіраецца прасіць прытулку...

[інтэрв'ю ☞ 4]

## Беларускі бізнес

Найгорш аднак бізнесменам прайсці гродзенскую мытню. Ніколі не зразумею, чаму экспарцёрам гарэлкі, цыгарэтаў і ўсяго барахла канфіскуецца тавар. Логіка падказвае, што дзяржаўныя службы павінны служыць грамадзянам радай як найлепш прайсці кантроль на польскай мытні. Пляшкі гарэлкі ці пачкі цыгарэт, якія валакуць бедныя жанчыны пад спадніцамі, мяняюцца ў Польшчы на валюту, якой так патрабуе сёння Беларусь...

[Беласток — Гродна ☞ 5]

## Юбілей дубіцкіх пажарнікаў

25 ліпеня над вадасховішчам Бахматы адбыліся святкаванні 80-годдзя мясцовай добраахвотнай пажарнай каманды. Яе пачаткі сягаюць часоў І сусветнай вайны, калі ў Дубічах войска пакінула ручную помпу...

[болей ☞ 8]

## Месца асвячанае малітвай

— А я хаджу ўжо 46 гадоў, амаль бесупынна. Толькі двойчы застаўся я дома, каб даць магчымасць паломніцаю жонцы, — прызнаецца 56-гадовы Мікалай Федаровіч, муж Марыі. — Упершыню апынуўся я на Грабарцы будучы 8-гадовым хлапчуком. Хварэў я на нагу. Бабуля, якая мяне выхоўвала, паслухала суседзяў і дазволіла мне паломнічаць на святое месца...

[паломніцтвы ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Сябры, жахлівы наш саюз!

**Пра расійска-беларускі саюз гавораць ужо пяць гадоў. І не толькі гавораць: у яго рамках падпісана ўжо некалькі соцень двухбаковых дагавораў, пагадненняў і пратаколаў. Аднак да адзінай дзяржавы яшчэ сто гадоў.**

Калі меркаваць па падпісаных Масквой і Мінскам дакументах, то саюз, блізкі па ўзроўні інтэграцыі да Еўрапейскага Саюза, ужо створаны.

Еўрапейскія краіны пачалі, як вядома, з мытнага саюза. Яны стваралі яго больш за дваццаць гадоў — з пачатку 1970-х. Масква і Мінск патрацілі ўсяго 2-3 гады. Але, згодна афіцыйным дакументам, мытная граніца паміж дзвюма краінамі была ліквідавана, мытныя кодэксы практычна не адрозніваюцца адзін ад аднаго, функцыянуе саюзны мытны орган.

Цяпер Расія і Беларусь рухаюцца далей. Яны прыступілі да фармавання агульнага рынку тавараў, паслуг, капіталаў і рабочай сілы, а таксама аб'явілі аб неабходнасці ўвядзення адзінай валюты. 25 снежня 1998 г. было падпісана пагадненне „Аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання", у сакавіку гэтага ж года — пагадненне аб кааперацыі паміж расійскімі і беларускімі прадпрыемствамі і аб роўных правах грамадзян. Дзейнічае пагадненне аб адзінай цэнавай і тарыфнай палітыцы.

Фактычна гутарка ідзе аб укараненні адзінага знешнегандлёвага рэжыму, аднолькавых умоў знешнеэканамічнага рэгулявання, ліквідацыі міждзяржаўных бар'ераў пры ўзаемным інвеставанні і рэгістрацыі прадпрыемстваў, адзіным падаткавым рэжыме, агульнай валютнай прасторы, магчымасці працаўладкавання і сацыяльнай дапамогі грамадзянам абедзвюх дзяржаў незалежна ад іх месца прабывання.

Аднак усё гэта толькі існуе на паперы.

Рэалізацыя ўсіх пералічаных пагадненняў знаходзіцца на самым нізкім узроўні. Вось толькі адзін прыклад. У апараце выканаўчага камітэта Саюза Расіі і Беларусі паспяшаліся адрапартаваць, што „падаткавае заканадаўства ў асноўным уніфікаванае". Але ўжо ў наступным радку аўтары даклада прызнаюцца, што не выпрацавалі „адзіных падыходаў да азначэння тэрміна «уніфікацыя»". Анекдатычнасць прызнання не палохае чыноўнікаў. Галоўнае — тое, што „неабходнасць адзінага разумення тэрміна «уніфікацыя» ў бліжэйшы час будзе рашацца".

Аналагічная сітуацыя наглядаецца і ў мытных справах. Граніцу адмянілі, але 7 ліпеня на пасяджэнні выканкама беларускі прэм'ер Сяргей Лінг абвінаваціў Міхаіла Ваніна, старшыню Дзяржаўнага мытнага камітэта Расійскай Федэрацыі, што той тайна аднавіў граніцу і збірае мытныя пошліны. Ванін не стаў пярэчыць, удакладніўшы: „Толькі ў адносінах да тавараў з трэціх краін".

Высветлілася, што цераз „беларускі калідор" у Расію па-ранейшаму ўвозяцца імпартныя тавары. За першыя шэсць месяцаў 1999 г. Ванін выявіў і аблажыў пошлінамі транзіт цераз Беларусь на 2,5 млрд. дол. ЗША. А колькі было перавезена кантрабанды пад выглядам беларускіх тавараў, не ведае нават ён. Спрэчка аб паходжанні гэтых тавараў, як кубінскі трысняговы цукар, расфасаваны ў Беларусі, працягваецца.

Аб уніфікацыі тарыфаў няма чаго і гаварыць. Дакладней кажучы, у 1997 годзе была яна блізкая завяршэння. Аднак з гэтага часу Расія змяніла каля 300 ставак імпартных пошлін і вярнула экспартныя. Мінск па-ранейшаму застаўся ў 1997 годзе.

Галоўная прыкмета адзінай дзяржавы — адзіная валюта. 7 ліпеня на пасяджэнні расійска-беларускага выканкама старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч заявіў, што прызнае расійскі рубель адзінай валютай, а расійскі Цэнтральны банк — агульным эмісійным цэнтрам.

Здавалася б, ключавое пытанне інтэграцыі вырашана — справа толькі ў тэрмінах. Але калі ўважліва прааналізаваць праект „Канвенцыі ўвядзення адзінай валюты і фармавання адзінага эмісійнага цэнтра Саюза Беларусі і Расіі", тады становіцца ясным, што адзінай валюты Расія і Беларусь мець не будуць нават да памечанага ў канвенцыі 2008 года.

Аўтары канцэпцыі, намеснік старшыні Цэнтральнага банка Алег Мажайскоў і дырэктар дэпартамента міжнародных фінансава-эканамічных адносін ЦБ Павел Смірноў у аснову канцэпцыі паклалі падручнік французскага фінансіста Бернара Калі, прысвечаны функцыянаванню фінансавых інстытутаў у ЕС. Гэтак высокая планка ўзята была невыпадкова.

Аўтары паставілі наступныя ўмовы ўвядзення адзінай валюты — расійскага рубля: неабходна завяршыць у абедзвюх краінах рыначныя рэформы і стабілізаваць новыя базісныя сацыяльна-эканамічныя мадэлі, поўнасцю манетызаваць эканоміку, ліквідаваць бартэр, замацаваць правапарадак у эканамічным жыцці, увесці поўную ўзаемную канвертавальнасць валют (беларускі рубель мае пяць курсаў, «чорны» дасягае 500 тысяч беларускіх рублёў за долар, што чатыры разы вышэй афіцыйнага), зменшыць бюджэтныя дэфіцыты і дзяржаўны доўг да „эканамічна апраўданых граніц — у ЕС адпаведна 3% і 60% валавога прадукту" (пакуль у Расіі дэфіцыт кансалідаванага бюджэту дасягае 5,8%, дзяржаўны доўг — 120%).

Ажыццявіць усё гэта Расія і Беларусь змогуць не на працягу 8-10 гадоў, а толькі не менш чым праз сто. А да гэтай пары кандыдатам у аб'яднаныя прэзідэнты прosьба не хваляваться.

**Канстанцін Смірноў**

*Коммерсантъ-Власть № 27 (328), 13 ліпеня 1999 г.*

## Таямніцы старога Брэста

Праязджаючы ў 1935 годзе цераз Брэст па дарозе з Дамачова ў Пінск, мне, тады 7-гадоваму хлапчуку, не было вядома, што мінаю не гістарычныя, а толькі адносна маладыя кварталы горада, пабудаваныя на ўсход ад старажытнага сярэдневяковага цэнтра з палацамі, замкамі, храмамі, манастырамі, складамі. Гэтыя архітэктурныя каштоўнасці па волі ўладароў Расійскай імперыі знішчаліся, каб сцерці сляды магутнасці іншых чым расійская палітычных сіл і расчысціць месца пад будову крэпасці, патрэбнай дзеля трымання ў паняволенні іншых народаў. Аб гэтым да нядаўна ведалі нямногія, а ў выданнях пра стары Брэст нявыгадныя факты замоўчваліся.

У гэтым годзе ў „Ніве" друкаваліся два цікавыя матэрыялы пра Брэст. І хаця не адкрываюць яны ўсёй праўды пра гэты горад, аднак папаўняюць веды пра яго мінулае. У артыкуле Сэрафіна Корчака-Міхалеўскага „Мінулае і будучыня Брэста" („Ніва", № 2) маю ўвагу прыцягнулі сціплыя даныя пра стан асветы ў XVIII-XIX ст.ст., што ў параўнанні з сучаснасцю мае даказаць вышэйшасць сённяшняга дня над гаротным мінулым горада. У гэтым месцы хацелася б запытаць: а на якой мове вядуцца заняткі ў сучасных школах, калі ад прыезджых з гэтага беларускага горада не пачуеш беларускай мовы толькі рускую? Здаецца, што ў гэтых далікатных справах бліжэй праўды аказалася Ірына Лаўроўская, якая ў артыкуле „Брэст — самабытны горад" („Ніва", № 11), пералічыўшы знішчаныя ўжо помнікі архітэктуры і культуры старажытнага Брэста, пацвярджае адмоўныя паслядоўнасці расійскай імперскай палітыкі і прарасійскай пазіцыі улад сённяшняй Беларусі. Нават сёння ўлады адмаўляюцца пачаць археалагічныя раскопкі і рэстаўрацыю помнікаў. А менавіта ў выніку такой палітыкі мост на Бугу ў Брэсце не выконвае ролі памоста дружбы паміж нашымі народамі. Нягледзячы на перамены апошняга дзесяцігоддзя адміністрацыя на ўсходнім баку гранічнай ракі надалей застаецца стаяць на старых пазіцыях.

* * *

Ад гэтых невясёлых рэфлексій не ўдалося мне ўцячы ў размове з **Анастасіяй Фяцісавай** — вядомым жывапісцам і педагогам, аўтаркай больш 30 карцін, прысвечаных мінуламу Брэста, яго помнікам і гістарычным постацям. На жаль, большасць гэтых карцін застаецца ляжаць у музейных сховішчах, а жыхары Брэста так і не маюць магчымасці пазнаёміцца са старым горадам, адлюстраваным „камень па камені" на палотнах. Каб пераадолець гэтае кола немагчымасці, мастачка запрапанавала выдаць з нагоды 980-годдзя горада альбом „Таямніцы старога Брэста", у якім змешчаны былі б рэпрадукцыі карцін з відам горада ў XIX стагоддзі. Па невядомых прычынах ад першапачатковай канцэпцыі засталося нямнога. У „папраўленым" выданні прапала дзесьці суцэльная канцэпцыя спалучэння гістарычных тэкстаў з карцінамі мастачкі, „выпалі" гістарычныя матэрыялы, перададзеныя мастачцы мясцовым краязнаўчым музеем і музеем Брэсцкай крэпасці.

Гутарыў я з Анастасіяй Фяцісавай на польскай і рускай мовах. Мастачка выводзіцца з мастацкага рускамоўнага асяроддзя, але дэкларуе прабеларускія сімпатыі. Пакуль стала жывапісцам, дырыжыравала хорам. Яе бацька, вядомы беларускі савецкі жывапісец, не ад разу адобрыў мастацкія памкненні дачкі. Аднак дзякуючы выдатнай дапамозе сям'і, ужо замужняя і маці малога дзіцяці, пачала яна і паспяхова закончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у Мінску. Як прафесійны мастак, выконвала розныя працы па-за Брэстам, між іншым, размалёўвала фрэскі ў Кобрыне, рабіла дэкарацыі па клубах, кінатэатрах. Аб незвычайным мінулым Брэста даведалася крыху пазней ад сваёй сяброўкі. Гісторыя горада і яго помнікаў так яе захапіла, што рашыла аднавіць іх на карцінах.

Цяпер няма адпаведных умоў для развіцця культуры ў Беларусі. У людзей няма грошай, каб купіць карціну, пайсці ў тэатр ці філармонію. Ад мецэната адмовілася дзяржава, таму галерэі і музеі не купляюць карцін, а толькі бяруць іх у дэпазіт. Многія прафесійныя артысты (акцёры, спевакі і музыканты) кідаюць свой занятак і шукаюць магчымасцей іншага заробку.

Мая субяседніца выказала спадзяванне, што складаная сітуацыя з часам паправіцца і яе мара выдаць прыгожы аб'ёмісты альбом „Таямніцы старога Брэста" стане рэчаіснасцю. А я са свайго боку запэўніў Анастасію Фяцісаву, што нам, усім сімпатыкам Беларусі і яе культуры, ляжаць на сэрцы ўсе турботы не толькі брэсцкага мастацкага і навуковага асяроддзя.

**Міхал Занчэўскі**

## Выбары лідэра адкладзены

Ад VI з'езда Беларускага народнага фронту, які адбыўся ў Мінску 31 ліпеня — 1 жніўня, усе ангажаваныя ў палітыку людзі на Беларусі чакалі сенсацыі. Дэлегаты павінны былі разабрацца з канфліктнай сітуацыяй, што склалася ў Фронце апошнім часам і абраць новага кіраўніка арганізацыі або пакінуць на гэтай пасадзе Зянона Пазьняка. Аднак гэта зроблена не было і з'езд перанесены на восень.

Галоўнае, чаго баяліся ўсе сябры Фронту, гэта магчымасць расколу арганізацыі. Непаразуменні паміж Зянонам Пазьняком і іншымі кіраўнікамі БНФ, пасля гісторыі з прэзідэнцкімі выбарамі гэтай вясной, пагражалі перарасці ў адкрыты канфлікт. Гледзячы на тое, што Народны фронт з'яўляецца адной з найбольш уплывовых апазіцыйных арганізацый Беларусі, унутрыпартыйныя сваркі маглі прынесці шкоду не толькі БНФ, але ўсяму дэмакратычнаму руху Беларусі. Пра гэта дэлегатам з'езда нагадаў у сваім лісце Васіль Быкаў: „Унутрыпалітычная сітуацыя краіны патрабуе адэкватных і адмысловых дзеянняў апазіцыі супраць дыктатарскага рэжыму. Але дамагацца змены таго рэжыму немагчыма без аб'яднаных высілкаў усяе дэмакратыі, без ідэйна-арганізацыйнага адзінства Фронту. Разброд ці раскол быў бы самагубствам для Фронту і злачынствам перад Радзімай".

Два дні дэлегаты даказвалі адзін аднаму, хто з іх мае рацыю. Галасаванне паказала, што ні адзін з канфліктуючых бакоў не мае пераважаючай падтрымкі сяброў Фронту. На пасаду старшыні было вылучана сем чалавек: Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Зянон Пазьняк, Вечыслаў Сіўчык, Юры Хадыка і Аляксей Шыдлоўскі. Але пяцёра з іх знялі свае кандыдатуры на карысць Вінцука Вячоркі. Такім чынам дэлегатам з'езда належала выбраць на пасаду старшыні або Зянона Пазьняка, або яго маладога намесніка. З 312 чалавек 152 прагаласавалі за Вячорку, супраць 160. Пазьняка падтрымалі 156 удзельнікаў з'езда. У выніку кіраўнік БНФ так і не быў абраны, бо ніводзін з кандыдатаў не набраў больш паловы галасоў.

Народнафронтаўцы працягнуць свой з'езд у верасні або кастрычніку.

**Зміцер Кісель**

# Час жніва

[1 ☞ працяг]

Дзяржаўнае прадпрыемства, якое купляе збожжа ў Бельску-Падляшскім, прапануе па 370-400 злотых за тону пшаніцы, намнога ніжэй, чым у Агенцтве. Гаспадары з Гайнаўшчыны, Бельшчыны, якія сабралі збожжа, крыху разгубленыя і не ведаюць, ці чакаць скупкі Агенцтвам.


Старшыня Аляксандр Чапко.

Год гэты будзе цяжкім для тых, хто жыве з прадукцыі збожжа. Аднак на вёсцы няма часу на роздумы. Людзі возяць салому, пачынаюць араць і рыхтаваць поле для пасеву азімага збожжа.

**Штодзённае жыццё**

Сельскагаспадарчы прадукцыйны кааператыў у Старым Корніне жнівом жыве толькі некалькі тыдняў, а збожжа ў 70% выкарыстоўваецца тут як корм для свіней, якіх там зараз колюць каля тысячы штук.

— Добра, што хаця павышаецца цана на свініну. Мясное прадпрыемства з Беластока, якое было нашым галоўным пакупніком, купляла яго на 2,40-2,60 злотых за кілаграм, а зараз прыватныя пакупнікі плацяць і па 3,50 злотых. Аднак такога вялікага пакупніка мусім трымацца, бо могуць быць клопаты, каб прадаць 3,5 тысячы свіней, якія штогод адкормліваем, — расказвае пра галоўную прадукцыю калгаса яго старшыня. — Дадаткова сушым яшчэ і сена, бо трава ў нас на 30 гектарах. Прадаем яго ажно ў варшаўскія Заапарк і Лазенкі.

Калі пытаюся пра рэцэпт на поспех калгаса, працаўнікі хваляць свайго старшыню, які добра кіруе іх працай, а старшыня звяртае ўвагу на вялікую ахвярнасць, добрую і сумленную працу работнікаў.

— Летам працаваць трэба ад раніцы да змроку, і для дому мала часу ў нас. Прыбытак быў бы яшчэ больш, каб не складчыны на страхоўку ЗУС, велічынёю ў 48% ад зарплаты работнікаў, чаго не вымушаны плаціць прыватныя гаспадары. Трэба ўвесь час сачыць за навінкамі, якія павышаюць плён. У мінулым годзе купілі мы вялікі трактар, а сёлета думаем мантаваць лінію для кормлі свіней. Кошт вернецца за два гады, — паясняе мой субяседнік. — Калі, напрыклад, вынік прадукцыі пшаніцы з аднаго гектара 3,7-3 тоны, то толькі такі высокі плён дае нейкі прыбытак. У выпадку свіней прадукцыя аднаго кілаграма ў нас — 3,30 злотых, дык апошнім часам трэба было і даплачваць. Зараз увогуле цяжка ў сельскай гаспадарцы, бо цэны на сродкі прадукцыі даражэюць у сярэднім на 5-7% у год, а цэны на збожжа ці свініну — як у мінулых гадах. І няма чаго, пакуль што, разлічваць на рэзкія змены.

**Аляксей МАРОЗ**
*Фота аўтара*

# Урок гісторыі на могільніку



Урачыстасць ля Маўзалея ахвяр гітлераўскага варварства.

15 ліпеня г.г. на каталіцкім могільніку ў Бельску-Падляшскім пры помніку званым Маўзалеем ахвяр гітлераўскага варварства адбылася ўрачыстасць, прымеркаваная да 56 гадавіны пакутніцкай смерці пяцідзесяці жыхароў Бельска, у тым ліку трох святароў.

Урачыстасць згуртавала каля 200 чалавек. Прыбылі таксама дэпутаты Сената і Сейма, прадстаўнікі ўлад, войска і паліцыі, пажарнікі і школьная моладзь, каталіцкае і праваслаўнае духавенства.

— Мы мусім прыпамінаць сабе, што тыя, якія аддалі жыццё за нашу свабодную Айчыну, забавязваюць нас трымацца Касцёла і Польшчы, — сказала старшыня Рады павета Бажэна Гратовіч.

Падчас урачыстасці была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар ксяндза Антонія Бэшты-Бароўскага, які апынуўся ў ліку пяцідзесяці пакутнікаў, забітых гітлераўцамі ў Піліцкім лесе, а якога папа Ян Павел II у час апошняга візіту залічыў у лік блаславёных. Табліцу адкрылі пляменнік загінуўшага святара кс. Эўгеніюш Бароўскі, бельскі дэкан кс. Людвік Альшэўскі і стараста Марэк Лукашэвіч.

На канец урачыстасці біскуп Антоні Дыдыч падзякаваў таксама праваслаўнаму духавенству, якое „прыбыло, каб разам маліцца і падкрэсліць духовую сувязь з гэтай зямлёй і выказаць сваю пашану для людзей, якія за супольную свабоду аддавалі сваё жыццё, сваю кроў”. Пасля ўрачыстасці ў горадзе дэлегацыі ўсклалі вянкі да помніка ў Пілліцкім лесе.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**
*Фота аўтара*

# Гаспадарскі візіт радных

23 ліпеня г.г. у Бельску-Падляшскім адбылася XII сесія Рады павета. У першай частцы радныя аб'явілі конкурс на пасады дырэктараў Комплексу спецыяльных школ і Школьнай бурсы ды ўстанавілі спосаб распрацоўкі праекта бюджэту на 2000 год. У другой, выязной, частцы радныя нанеслі гаспадарскі візіт у гміны Браньск і Рудка з мэтай азнаёміцца з асноўнымі праблемамі насельніцтва.

У Браньску радныя наведалі Дом сацыяльнай дапамогі для састарэлых. Госці засталі дом чыстым і задбаным. Побач рамантуецца другі будынак, у якім будуць весціся заняткі для жыльцоў (цяпер пражывае тут каля 80 пенсіянераў). Пасля павятовыя дэпутаты наведалі рамантаваны касцёл, пабывалі на пабудове царквы, заглянулі ў Кааператыўны банк і будаваную яшчэ спартыўную залу, а на канец нанеслі візіт бурмістру мястэчка і войту мясцовай гміны.

У Рудцы радныя спачатку зайшлі ў сядзібу войта. Гміна Рудка паўстала ў 1992 г. у выніку выхаду са складу Браньскай гміны. Пазней госці наведалі Сельскагаспадарчую школу імя Кшыштафа Клюка, інтэрнат і новазбудаваную спартыўную залу. Інтэрнат — прыгожы, дагледжаны аб'ект, у якім па ініцыятыве моладзі ў падзямеллі была адкрыта невялікая чароўная кавярня. Радныя заўважылі, што бельскай бурсе далёка да гэтага інтэрната.

Выязная частка сесіі закончылася ў Надлясніцтве Рудка. Там каля вёскі Карыціны пры вогнішчы і каўбасках радныя да позняй ночы падводзілі вынікі паездкі.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Новыя водаправоды

У рамках „Кантракта для Белавежскай пушчы” прадугледжваецца падтрымка ўсім дзеяння у карысць экалагічнага развіцця гэтага рэгіёна. Сродкі на гэтую мэту будуць прызначацца з дзяржаўнага бюджэту, рэсурсаў Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі ды публічных ахвяраванняў. Дзяржаўны бюджэт сёлета прызначыць 20 млн. зл. на пракладку водаправода ў Старыне, Гурным Грудзе, Пясках і калоніі Бобінка Дубіцкай гміны. Мяркуецца, што на ўсю інвестыцыю спатрэбіцца каля 200 тысяч зл. Жыхары, якія вырашаць падключыцца да водаправода, абавязаны будуць заплаціць па 1200 зл. Астатнія кошты пакрые Гмінная ўправа ў Дубічах-Царкоўных. Паводле сакратара Гміннай управы Мікалая Лаўрыновіча, да публічных таргоў на выкананне інвестыцыі прыступіла восем контрагентаў, але ў канчатковым выніку перамагло Прадпрыемства кансервацыі водных і каналізацыйных абсталяванняў. Збудуе яно 12 кіламетраў водаправоднай сеткі, у тым ліку 3,5 км дамавых адгалінаванняў.

**Славамір КУЛІК**

# Да блізкіх — за мяжу

Жыхары Белавежы ў апошнюю суботу ліпеня падаліся на супольную магілу сваіх блізкіх, забітых немцамі ў першыя дні вайны 1941 года. Магіла — у Белавежскай пушчы, па беларускім баку мяжы. Раней у гэтым месцы была невялічкая лясная вёска Перароў. Пасля вайны засталася адно назва ўрочышча, у якім на месцы злачынства ўзвялі манументальны бетонны помнік. Перад ім гарыць вечны агонь. На мемарыяльнай пліце сорак тры прозвішчы жыхароў Белавежы і навакольных вёсак.

— Маёй дваюраднай сястры быў дваццаць адзін год, — расказвае Алена Анішэўская, — пакінула па сабе трохтыднёвае дзіцятка. Адзіная яе віна была ў тым, што мела цудоўны голас і пры саветах запрашалі яе спяваць падчас розных урачыстасцяў.


Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

Немцы 1 жніўня 1941 года расстралялі, сярод іншых, і бацьку спадарыні Алены. Ён таксама пакоіцца ў супольнай магіле ў Перарове. Штогоду дзеці, якія самі сталі пажылымі людзьмі, наведваюць яго з кветкамі, знічамі і са сваімі дзецьмі.

Выезд белавежцаў на магілу блізкіх адбываецца без замежных пашпартаў, дзякуючы дапамозе памежнікаў, якія на адзін дзень у год адчыняюць пераход мяжы ў пушчы, каля мясцовасці Грудкі. На беларускім баку стаяць аўтобусы, дастаўленыя кіраўніцтвам Пружанскага раёна. Вязуць яны паломнікаў не толькі на магілу, але і далей — у Пружаны, ды развозяць па сваяках у прыпушчанскіх мясцовасцях. Бо гэты выезд, не толькі ўшанаванне памяці нявінна загінуўшых, але і нагода наведаць жывых.

**(ак)**

# Мы і на волі нявольныя

**Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Міжнароднага Пэн-клуба Уладзімір НЯКЛЯЕЎ ужо больш за месяц знаходзіцца ў Польшчы. Нейкі час таму ў сродках масавай інфармацыі паявілася вестка, што Някляеў збіраецца папрасіць палітычнага прытулку ў Польшчы, паколькі ў Беларусі яго творчая дзейнасць знаходзіцца пад пагрозай. Але пісьменнік не збіраецца прасіць прытулку. Сваю прысутнасць у Польшчы ён тлумачыць тым, што рэальная небяспека рэпрэсій у дачыненні да яго можа ўзрасці пасля 20 ліпеня. З Уладзімірам Някляевым размаўляе супрацоўніца Беларускай рэдакцыі V Праграмы Польскага радыё Вольга Гардзейчык.**


Фота „Наша Ніва"

***— Якія ж Вашы аргументы „за" і „супраць" таго, каб застацца на Захадзе?***

— Застаючыся на Захадзе, так ці інакш ты павінен разумець, што з актыўнага працэсу, які адбываецца сёння ў Беларусі, выключаешся. Вярнуўшыся, я застаюся ў той сітуацыі ўвесь, а зрабіўшы тое, што я ўжо зрабіў тут — гэтая сітуацыя горне мяне нават яшчэ больш шчыльна — я разумею, што мяне пісаць вершы ніхто ўжо не выпусціць, і самому гэта не будзе выпадаць. Я і раней не надта хацеў цалкам улазіць у палітыку, не надта я хачу гэтага і зараз. Таму праблема нават не ў тым, як адрэагуюць улады на тое ці іншае маё рашэнне — калі застануся, рэакцыя будзе адразу, калі вярнуся — адпаведная, але не адразу. Вось я і думаю, што выбраць. Ці ўласны лёс, які нібыта пачаўся, з нуля пачынаць. Па сутнасці, мне прыйшлося б пачынаць жыццё з нуля — гэта вельмі няпроста.

***— Менавіта, ці Вы разумееце ўсю адказнасць за такія пасады, як старшыня Саюза пісьменнікаў, як галоўны рэдактар „ЛіМа", часопіса „Крыніца", дарэчы, Вамі створанага. Гэтыя пасады Вы цяпер пакідаеце.***

— Дальбог, гэтыя пасады мяне ніколі не грэлі, можа апроч пасады галоўнага рэдактара „Крыніцы". Вось, мы рабілі такі часопіс — сабраліся людзі, якія хацелі працаваць разам і рабілі тое, што яны ўмелі рабіць лепш за ўсё. Гэта не так часта здараецца — гэта проста шчаслівы выпадак. І, канешне, мне цяпер вельмі шкада за „Крыніцу". Што тычыцца „Літаратуры і мастацтва", то я з новага года ўжо сышоў з пасады галоўнага рэдактара. Дарэчы, я сышоў і з пасады рэдактара „Крыніцы", таму што на дадзеным этапе мне больш трэба было рабіць для Саюза пісьменнікаў. А што тычыцца самога Саюза пісьменнікаў, то якая на сённяшні дзень гэта пасада — гэта больш гарота, чым работа. Здабывай, выбівай — вось я, дарэчы, на гэтым і пагарэў. Я паставіў сабе задачу акрэсліць пазіцыю гэтай арганізацыі — стараўся неяк вырашыць і матэрыяльны бок праблемы, а яго ніякім чынам нельга вырашыць без заходу да тых людзей, якія ім валодаюць на сённяшні дзень. Так я і залез пацыху ў гэту пастку, жадаючы лепшага.

***— Якую пастку Вы маеце на ўвазе?***

— Мяне сталі адкрыта папракаць у супрацоўніцтве з уладнымі структурамі. Саюз пісьменнікаў — грамадская арганізацыя і ніхто ж мяне не прызначаў на гэту пасаду. Пасля сканчэння тэрміну паўнамоцтваў былога старшыні мы раіліся, што рабіць далей — шчыра кажучы, вялікага жадання ўлазіць у гэты хамут я не меў.

***— Але тым не менш ці не пачуваецеся Вы абавязаным перад тымі людзьмі, якія Вас абіралі — перад Саюзам пісьменнікаў?***

— Я ўсведамляю адказнасць за лёс Саюза пісьменнікаў, таму што я быў абраны яго старшынём.

***— Якім вы бачыце гэты лёс?***

— Калі я застануся ў Польшчы, то паўстане пытанне аб абранні новага старшыні. Я не лічу, што я нанёс Саюзу пісьменнікаў шкоду. Сціпла лічу, што нават наадварот, таму што ў гэтай сітуацыі іншы ўжо будзе сядзець у зацішку і рабіць выгляд, што гэта проста культурны асяродак і нічога больш. Я не ўмею гэтага рабіць. Я разумею, што я, канешне, шмат нарабіў дыскамфорту, але ў нашым дыскамфортным часе камфортна жыць не можа той, хто сапраўды думае пра беларускае. Проста не выпадае.

***— Вы ставіце Саюз пісьменнікаў перад выбарам — ці застацца са старшынём Уладзімірам Някляевым, які знаходзіцца на палітычнай эміграцыі ў Польшчы — і тады вы станеце як бы штандарам для беларускіх пісьменнікаў, іх сімвалам свабоды слова. Скажыце, Вы лічыце сябе палітычным эмігрантам-змагаром за свабоду слова?***

— Я не лічу сябе ніякім штандарам і не хачу быць такім штандарам. Я хачу нарэшце быць самім сабой у той ступені, у якой мне дазваляе быць мая цяперашняя сітуацыя, няхай у той жа самай Польшчы. А яна мне дазваляе быць самім сабой у значна большай ступені, чым гэта магчыма ў Беларусі. Але што з намі зрабіла наша выхаванне — мы і на волі нявольныя, мы і на волі залежым ад той няволі, якая на сённяшні дзень засталася за плячыма ў Беларусі. Я не магу вызваліць сябе цалкам ні ад Саюза пісьменнікаў, ні тым больш ад той бяды, якая сёння ў Беларусі.

* * *

20 ліпеня Уладзімір Някляеў выступіў з адмысловай заявай у Сейме з нагоды заканчэння тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Ён сказаў:

— Я апынуўся ў такой сітуацыі, што мала хто лічыцца з тым, што я паэт, усе ад мяне патрабуюць логікі палітыка. Зыходзячы з гэтай логікі, безумоўна, зрабіўшы той крок, які я зрабіў, было б правільна, каб я ўжо сёння папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы. Але я пазбаўлены логікі палітыка і ў мяне прысутнічае любоў да Беларусі — немагчымасць уявіць сабе нават існаванне па-за яе межамі. Таму я зараз знаходжуся ў Польшчы па візе — легальна і ў мяне ёсць час перад гэтым крокам усё ўзважыць да апошніх драбніц. „Няхай у сабе знойдзе сілы вярнуцца, у Беларусі ў яго няма праблем", — перадалі мне словы прэзідэнта. Гэта не так. У Беларусі ёсць праблема агульная для ўсіх — гэта дыктатура. Гэта Аляксандр Лукашэнка павінен знайсці ў сабе мужнасць прызнаць рэаліі і прыпыніць прэзідэнцкія паўнамоцтвы, спраўдзіць закон, канстытуцыю, на якую прысягаў ён верай і праўдай служыць Беларусі.

* * *

Уладзімір Някляеў зачытаў свой верш, напісаны ўжо ў Варшаве, які прысвячаецца 20 ліпеня.

*Народу можна засціць зрок*
*Без дай прычыны.*
*Ды бачыць Божа кожны крок*
*На звод Айчыны.*

*У вочы вам адплаты час*
*Зірне сурова.*
*Каб дзеці апраўдалі вас —*
*Вярніце мову.*

*Няма пачаткаў і канцоў,*
*Усё праця́г.*
*Каб не ўскіпела ў жылах кроў —*
*Вярніце сцяг.*

*І славы сверб, што вас скубе,*
*І ўлады сверб,*
*Пакіньце ўсё сваё сабе —*
*Вярніце герб.*

*Дальбог, пра гэта не са зла*
*Малюся ў скрусе —*
*А каб зямля вас прыняла*
*На Беларусі.*

# Знішчэнне мовы

*(праця́г; пачатак у 31 н-ры)*

**Забарона мовы**

А вось асобныя эпізоды з традыцыі лінгвацыду ў Беларусі.

1790 г. Прызначаны з Расіі ўладыка Віктар Садкоўскі на Слуцкім епархіяльным саборы (на тэрыторыі Рэчы Паспалітай) пагражаў святарам, якія ўжывалі замест царкоўна-славянскай мовы ў сваіх цэрквах „літоўскую" (так тады часам называлі беларускую) мову: „Я вас скорэню, знішчу, што б і языка вашаго проклятого літовского і вас саміх не было; я вас у ссылкі парассылаю альбо ў салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардону панаважу".

1839 г. Мара В. Садкоўскага споўнілася. У цэрквах урэшце была забароненай казань на „літоўскай" мове.

Іерархі расійскай Праваслаўнай царквы, не даючы магчымасці карыстацца беларускай моваю ў багаслужбах пераконвалі вернікаў у тым, што гэтая мова для Божай службы непрыдатная.

Гэта казалася тымі, хто добра ведаў, што "ўсякая ўлада ад Бога". Хіба не ўсякая мова ад Бога?

1867 г. Як супрацьвага пашырэнню друку беларускіх кніжак, малітоўнікаў, казаняў лацінскім шрыфтам, што наплывалі з Польшчы і Галічыны і карысталіся попытам сярод насельніцтва, царская ўлады забаранілі друк лацінкаю, хоць менавіта ёю ў XVII — першай палове XIX ст. друкаваліся беларускія кніжкі.

1921-1924 г. У Польскай дзяржаве ліквідаваліся беларускія народныя школы, што ўзніклі з 1915 г. падчас акупацыі Заходняй Беларусі чужаземнымі кайзераўскімі войскамі (да таго на Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі, беларускіх школ не было). Калі ў 1918 г. у Заходняй Беларусі налічвалася больш за 350 беларускіх школ, у 1922 г. польскія ўлады пакінулі з іх ліку толькі 47, у 1923/1924 навучальным годзе — 29, у 1924/1925 — не засталося аніводнай беларускай народнай школы. 31 ліпеня 1924 г. польскі ўрад У. Грабскага выдаў закон („моўны"), згодна якому магчымасць адкрываць беларускія школы рэзка абмяжоўвалася.

1938 г. У Савецкім Саюзе прынята пастанова „Пра абавязковае вывучэнне рускай мовы ў нацыянальных рэспубліках СССР".

1958 г. Там жа выйшла палажэнне пра вывучэнне другой мовы ў школах „па жаданні вучняў і бацькоў". У сувязі з тым, што вышэйшыя навучальныя ўстановы ў БССР ужо даўно працуюць выключна на рускай мове, кожнаму ясна, якую мову будуць пры гэтым „выбіраць" вучні і бацькі.

Студзень 1959 г. Першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў сказаў у Мінску: „Чым хутчэй усе мы будзем гаварыць па-руску, тым хутчэй пабудуем камунізм".

Сярэдзіна 1960 г. Пачатак „эпідэміі" вызвалення ад вывучэння беларускай мовы ў школах пры першым сакратары ЦК КПБ Пятры Міронавічы Машэраве.

Да сярэдзіны 70-х гг. у 95 гарадах і 117 раённых цэнтрах БССР не засталося аніводнай беларускай мовы.

1960-1985 гг. Скарачэнне колькасці беларускамоўных выданняў у БССР з 425 да 381 найменняў, а іхняга тыражу з 7,2 да 4,9 працэнтаў.

Травень 1995 г. Рэферэндум, згодна вынікам якога рускай мове надаецца статус роўнасці з беларускай (хоць гэта фактычна існавала і раней).

Пасля гэтага. Перавод беларускамоўных газет у двухмоўныя, а двухмоўных — у рускамоўныя. Практычны пераход тэлебачання і радыёвяшчання, а таксама выкладання ў ВНУ на рускую мову.

1994-1998 гг. Скарачэнне колькасці беларускамоўных школ у Мінску з 130 да 17. Ліквідацыя беларускамоўных школ у абласных цэнтрах. Адмова бацькам у іхнім праве вучыць дзяцей па-беларуску. Адмена вывучэння і заліку па беларускай мове для аспірантаў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

1997 г. Загад весці дакументацыю выключна на рускай мове на Новапалацкай ЦЭЦ. Зачытванне прысягі маладога воіна Беларусі толькі па-руску. Скарачэнне накладаў беларускамоўных выданняў да 5,5 працэнтаў.

*(праця́г будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Беларускі бізнес

Чым больш назіраю жыхароў Беларусі, тым больш пераконваюся, што калі б даць ім спрыяльныя ўмовы для гаспадарчай дзейнасці, яны хутка дасягнулі б адпаведна высокі ўзровень жыцця. Базар на стадыёне „Ягелоніі" пры вуліцы Юравецкай у Беластоку паказвае, што калі толькі з'явілася нагода зарабіць грошы на гандлі беларускімі таварамі ў Польшчы, нават шчыльная мяжа не з'яўляецца праблемай. Штодзённа тысячы жыхароў Гродзеншчыны перасякаюць яе, прыдумоўваючы ўсялякія спосабы пераходу праз мытныя пункты і ашчаднасці на транспарце. Іх прыбытак гэта сапраўды цяжка і сумленна заробленыя грошы. Так найчасцей нараджаецца група грамадзян, якія сваю маёмасць здабылі дзякуючы працы сваіх мазгоў, рук і ног. Іншы спосаб узбагачэння, у выглядзе пераймальніцтва вузкімі коламі людзей улады дзяржаўнай маёмасці, які назіраецца ў краінах посткамуністычнай Еўропы, найчасей нараджае крымінальны бізнес з удзелам вядомых палітыкаў. Колькасць забітых у працэсе падзелу здабычы залежыць ад палітычных традыцый у пасобных краінах.

На мяжы ў Кузніцы чарга легкавых аўтамабіляў цягнецца на два кіламетры. З другога боку — два разы даўжэйшая. Пры канцы ліпеня польскія мытныя службы аб'явілі пратэст у выглядзе італьянскага страйку. Але не яны стрымоўваюць рух. Іх калегі ў савецкіх формах, упрыгожаных лукашэнкаўскімі сімваламі, працуюць быццам бы час затрымаўся сорак гадоў таму. З увагі на тое, што сярод перасякаючых дзяржаўную мяжу ў Кузніцы прыблізна 95 працэнтаў гэта грамадзяне Беларусі і Расіі, таму здзек мытных службаў накіроўваецца перш за ўсё на сваіх.

Рэйсавы аўтобус Беласток — Мінск, на якім ехала 9 чалавек, прастаяў у Брузгах чатыры гадзін толькі таму, што раней савецкія мытнікі правяралі дзве беларускія экскурсіі, якія вярталіся з Польшчы. Несумненна ахвярамі пануючай на савецкіх мытнях сістэмы з'яўляюцца не толькі тыя, якім раскідаюць усе сумкі, але таксама самі мытнікі. Пару метраў побач у цяні сядзяць іх польскія калегі. Часам адзін з іх падымецца і паставіць пячаткі шафёрам легкавых машын і аўтобусаў, каб маглі праехаць кантрольны пункт на беларускім баку. З усмешкай глядзяць на няшчасных беларусаў, якія сваіх суродзічаў, што вяртаюцца з чужыны, вітаюць як нейкіх тэрарыстаў. За што?

Калі пабываецца на мытні некалькі гадзін, ёсць магчымасць назіраць адносіны паміж грамадзянамі і прадстаўнікамі дзяржавы. Кожны дробны спекулянт, які на сваёй машыне перасякае мяжу стараецца пачаставаць мытніка або пагранічніка цыгарэтай, заахвочвае, каб той узяў таксама для калегі. Часта такім чынам і цэлая пачка „Marlboro" трапляе да хлопцаў у формах. Сам рытуал пачастунку выглядае даволі асаблівa. Пакорлівасць частуючых і пыхлівасць лейтэнантаў не надта нагадваюць адносіны паміж двума роўнымі грамадзянамі, а хутчэй за ўсё нейкі феадальны рэлікт. Але найчасцей дым з імперыялістычнай цыгарэты разраджвае напругу і аўтамабілі неяк хутчэй рухаюцца наперад.

Пару месяцаў таму адміністрацыя Лукашэнкі ўвяла абавязковую плату для польскіх аўтамабіляў і аўтобусаў, якія едуць у Беларусь. Палякі ў рэваншы зрабілі тое ж. Сёння, калі нехта хоча выехаць з Беларусі на беларускім транспарце, павінен ведаць, што на мяжы пасажыры аўтобуса мусяць сабраць суму 90 долараў, каб іх прапусцілі польскія пагранічнікі. Таму ўсе імкнуцца ехаць у Беласток на польскім транспарце. Вечарам каля чыгуначнага вакзала ў Гродне заўсёды стаяць і чакаюць пасажыраў 4-5 аўтобусаў з „Biacomexu" або „Kosmosu". Такім чынам беларускія бізнесмены-пачаткоўцы зусім ігнаруюць свой, фармальна таннейшы, транспарт.

Найтанней даехаць у Польшчу можна на чыгунцы. Ад грамадзян краін СНД за праезд у Кузніцу патрабуецца толькі адзін долар. Усе іншыя, якія хочуць пакарыстацца чыгункай, вымушаны плаціць утрая больш. Найгорш аднак бізнесменам прайсці гродзенскую мытню. Ніколі не зразумею, чаму экспарцёрам гарэлкі, цыгарэтаў і ўсяго бахрала канфіскуецца тавар. Логіка падказвае, што дзяржаўныя службы павінны служыць грамадзянам радай як найлепш прайсці кантроль на польскай мытні. Пляшкі гарэлкі ці пачкі цыгарэт, якія валакуць бедныя жанчыны пад спадніцамі, мяняюцца ў Польшчы на валюту, якой так патрабуе сёння Беларусь. Можа гэтую простую логіку і разумеюць некаторыя мытнікі, таму што толькі крычалі „Проходите быстрей, проходите". Прынцыпова ўсіх сваіх суродзічаў вяртала назад прыгажуня ў форме — псіхалагічны тып жанчыны з ранняй савецкай літаратуры. „Нельзя везці столько гарэлкі" — паўтарала выязджаючым.

Калі ўжо чалавек пройдзе мытню, вымушаны чакаць у маленькай бруднай зале пакуль адкрыюць дзверы і выпусцяць да цягніка. Кураць там амаль усе, каб супакоіцца пасля аднаго і перад другім кантролем у Кузніцы. У бязмытнай зоне людзі павялічваюць запасы алкаголю і рыхтуюцца да сустрэчы з польскімі мытнікамі. З кожнай хвілінай рух у зале становіцца больш, падаюць на бетон дрэнна замацаваныя пад спадніцамі і кашулямі бутэлькі. Пах папяросаў мяшаецца з алкаголем. Тэмпература ў закрытай зале проста невыносная. Успатнелыя бізнесмены, якія ведаюць адзін аднаго, неяк абменьваюцца пляшкамі. Пажылы дзядзка на момант здымае ненатуральна тоўстую куртку. Выхад з залы нагадвае фільмовую версію атаку на Зимний дворец. Усе спяшаюцца заняць месца ў першым вагоне, каб у Кузніцы паспець перасесціся на цягнік у Беласток. З першага менавіта пачынаюць правяраць польскія мытнікі.

У цягніку працягваецца маскіроўка экспартных тавараў. Гарэлка з бутэлек пераліваецца ў мяшочкі, якія завязаныя замацоўваюцца пад кашулямі, спадніцамі ды ва ўсякіх іншых месцах. Адна дама села на такую паўлітроўку і, відаць, нядрэнна ёй запякло ў далікатных месцах ад разлітага алкаголю. Перад Кузніцай адзін мужык умела выкінуў свае пляшкі праз вакно ў траву. Пасля, зразумела, трэба іх там адшукаць, каб было ў што разліць спіртныя напоі. На месцы аказалася, што ўся гэтая цяжкая праца была непатрэбная. Палякі мелі добры настрой і прапусцілі ўсіх амаль без кантролю.

У Кузніцы, зараз побач вакзала, мясцовыя бізнесмены пачалі оптам купляць прывезеную прадукцыю беларускіх спіртзаводаў. За пляшку плацілі тры разы больш чым каштуе яна ў Гродне, але і так атрымліваецца амаль тры разы танней як у краме. Дарэчы, у прыватных рэстаранах беларуская гарэлка прадаецца як „Absolwent", „Żytnia" або „Wyborowa". Паводле экспертаў схаладжаныя „Крышталь", „Панскі дом", „Два буслы" смакуюць лепш за вытворчасць беластоцкага „Polmosu".

**Яўген МІРАНОВІЧ**

Міхась АНДРАСЮК

# Фірма

***(працяг; пачатак у 31 н-ры)***

3.

„Сродкі, якія фірма «EXPO-Anatol» атрымала сёння ў рамках рэпрэзентацыйнага фонду, гэта не фінансы, а слёзы", — падумаў галоўны дырэктар заглядаючы ва ўручанае афіцыянткай меню. Пры такіх умовах дарма спадзявацца на лёгкасць думкі, на фантазію, на нестандартны план дзеяння, словам — на ўсё тое, што з'яўляецца эсенцыяй кожнай справы. Падобная дылема адбывалася і ў душы старшыні суполкі „Фрэйс". Так прынамсі можна здагадвацца, бо пераглянуўшы багатае меню, абодва прадпрыемцы затрымаліся згодна на чорнай каве, пяцідзесяці грамах самай таннай, жытняй гарэлкі і закусцы — так паспалітай, што не варта пра яе нават згадваць.

— Значыць, калі добра разумею, фірма разрастаецца? — Ці новы, карычневы пінжак старшыні Барабы быў прычынай такому сцвярджэнню, ці проста дырэктару Рубелю хацелася, асабліва ў прысутнасці маладой, чарнявай афіцыянткі бліснуць магічным словам „фірма" — гэта ўжо яго прыватная таямніца.

— А разрастаецца, разрастаецца. Не забываючы, што ўсё-такі трэба падтрымоўваць і радзімую вытворчасць, — старшыня Бараба пстрыкнуў у шкляначку з айчыннай жытняй, апраўдоўваючы прысутнасць мала элегантнага напою ў сваіх далонях. — Варочаць мільёнамі і не адракацца ад свайго. Вось яно, маё крэда. Праўда, пані Аня?

Пані Аня кіўнула галавою на знак, што крэда такое вельмі слушнае і паслаўшы шаноўным кліентам службовую ўсмешку, аддалілася на сваё месца. У яе быў дэмакратычны абавязак аднолькава пільна сачыць так за мільянерамі, як і менш багатымі спажыўцамі.

— Та-ак, — палавіна змесціва пяцідзесяціграмовай шкляначкі пераліліся ў вантробы пана старшыні,ператварылася ў асалоду, і ў цеплыню, і старшыня, быццам бы даючы водзыў на нутром пастаўлены пароль, глыбока ўздыхнуў.

— Т-так. Прыемнасць ёсць прыемнасць, але абавязак перш за ўсё.

Чарговы ўжо раз даводзілася выпаўняць ім гэты прафесійны абавязак, а калі глянуць на тое, што частотнасць згаданых сустрэч стаяла ў глыбокай залежнасці ад дабрачынных жэстаў пані Барабы і пані Рубель, можна здагадвацца, што справы пасоўваліся са скорасцю суразмернай да жаночых кампетэнцыяў у бізнесе.

Аднак, каб нічога не рабілася — таксама не скажаш. Думкі і праекты матэрыялізаваліся, увасабляліся, ператвараліся ў складаныя прагнозы, вылічэнні, бізнес-планы. У залежнасці ад актуальнай кан'юнктуры, мяняліся аб'екты зацікаўлення, пранікаліся новыя і новыя абшары гаспадарчай рэчаіснасці, аднак думка, каб што-небудзь рабіць, заставалася ў першапачатковым прататыпе.

— Ведаеш, — старшыня апаражніў шкляначку і нахіліўся бліжэй, каб падкрэсліць неабходную ў такіх выпадках патрэбу таямнічасці, працягваў распачатую думку. — І я, і мой штаб, аналізавалі за апошні месяц увесь наш, еўрапейскі рынак пісьмовых прыладаў. — Думка, каб заснаваць гэты саноўны „штаб", з'явілася ў галаве пана старшыні зараз пасля таго, як шкляначка паказала сваё дно, была — можна сказаць — відавочным доказам карыснага ўздзеяння жытняй гарэлкі на творчае мысленне пана старшыні. — Перакінулі во, такую кучу паперы, — паказаў рукою вышэй галавы. — І высновы атрымаліся цалкам цікавыя. Цалкам-цалкам. Ведаеш, — нахіліўся бліжэй яшчэ, так, што яго вусны дакраналіся амаль да заружавелага ад зацікаўлення дырэктарскага вуха. — Усе нашы ранейшыя планы з бульбінамі, пшаніцамі, аптовымі магазінамі — адно вялікае гаў-но.

— Значыць, што? — Дырэктарскае зацікаўленне пачынала ўжо ступаць на новую, пакуль невядомую сцежку. Цяпер, калі і другая шкляначка апаражнілася ў натурай прадбачаным месцы, ніякая дарога, нават самая таямнічая, не ўяўлялася ні далёкай, ні страшнай.

— Алоўкі, брат. Вось што! Магчымасці — кажу табе! Як адсюль па Уладзівасток.

І старшыня, і пан дырэктар падпілі ўжо някепска, пані Аня што і раз курсавала з чарговымі пяцідзесяткамі, а кожны адзін яе візіт, у вачах пана дырэктара і пана старшыні, павялічваў амаль за лінію далягляду бясконцыя радкі каляровых алоўкаў. Аптовыя магазіны адкрываліся ў Маскве і ў Парыжы, запаўняліся алоўкамі ўсіх гатункаў, размераў і колераў.

— Мой штаб працуе, браток. Што я кажу — штаб?! Армія, браток. Ар-мія! Такая во, — заціснутым кулаком паказаў магутнасць сваіх вытворчых службаў і калі б, выпадкова, нейкі кіраўнік канкурэнцыйнай алоўчанай фірмы ўбачыў гэты жэст, ён, не чакаючы ні хвіліну, выйшаў бы адсюль. На тое толькі, каб закінуць на шыю пятлю ды не быць сведкам уласнага банкруцтва.

— Мае людзі, ты нябойсь, спраўляюцца не горш за тваіх, — дырэктар чхнуў у шкляначку, а ягоная галава апусцілася яшчэ ніжэй, паглыбляючыся амаль у астанкі таннай закускі. — Шмат людзей у мяне. Так папраўдзе — і сам не ведаю колькі іх. А трэба — дык будзе больш. — За гэты вечар пан Рубель узяў на працу пару тысяч новых людзей і калі б не факт, што жончына датацыя паказала сумнае дно, да поўначы — можна спадзявацца — вырашыў бы праблемы ўсіх беспрацоўных. Так у Гайнаўцы, як і ў недалёкім Бельску.

А на вуліцы алоўкі — фіялетавыя, жоўтыя, чырвоныя — гуртаваліся ўжо, фарміраваліся ў рады, шарэнгі, калоны. З песняй на вуснах, з горда выпнутымі грудзьмі, з галовамі ўзнятымі да зорнага неба маршыравалі, зацiскалі каляровую пятлю кругом таго, хто паклікаў іх на свет.

Пан дырэктар стараўся выбрацца з алоўчанага акружэння, ступіў налева і направа, наперад і назад, аж канчаткова зморани зваліўся пад ахутаны інеем куст, там і заціх.

***(працяг будзе)***

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### Вучань Зай

Зайка шэранькі вясёлы
Ўжо збіраецца ў школу,
Хоць да верасня шчэ час.
Зайка йдзе ў чацвёрты клас!
Гэта ўжо не жарты, дзеці!
Гэта ўжо не малалецце!
А за лета як падрос!
Толькі той... куртаты хвост!..
Ну, і ў таты, і ў мамы
Хвост кароценькі таксама.
Хоць абое жывуць болей,
Больш займаліся ў школе.

Міра Лукша



*Ніна Младзяноўская і вучні са школы ў Дубічах-Царкоўных.*

# „Грабовэць стаў на ногі за коробкі"

**Інтэрв'ю з жыхаркай Грабаўца, спадарыняй Нінай МЛАДЗЯНОЎСКАЙ, якая 20 гадоў шыла каробкі — размаўляюць вучні VI, VII і VIII класаў Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных.**

***— Адкуль узяўся звычай пляцення каробак?***

— Спачатку ў Грабаўцы толькі адна сям'я шыла каробкі і ад усіх з гэтай працай хавалася: за каробкі плацілі шмат грошай і яны не хацелі мець канкурэнтаў. Усё ж таямніцу не ўдалося захаваць, людзі даведаліся і таксама пачалі гэтым займацца.

***— Скажыце, даўно гэта было?***

— У 60-ыя гады быў найбольшы збыт на такі тавар. Усе сем'і шылі каробкі. Збіраліся групамі па 10-12 чалавек на вячоркі. Кожны браў з сабой пучок саломы, жменю хлюбаў, сядзялі „ў кругавую" і плялі каробкі да другой гадзіны ночы. Сядзелі сярод гэтай саломы, быццам свінні ў хляве, але работа ішла і грошы наплывалі. У нашай вёсцы гэтае рамяство моцна разгарнулася. Паводле саміх гаспадароў, вёска Грабавец пабудавалася за каробкі. Каб не гэтая вытворчасць, вёска была б яшчэ крытая саламянымі стрэхамі!

***— Ці Вы ведаеце, куды ішла ваша вытворчасць?***

— Рабілі на воз вялізнае рыштаванне, клалі каля васьмідзесяці каробак і везлі ў Рудуты, Гайнаўку, а адтуль далей у Варшаву, Кракаў, а таксама за межы нашай краіны — у Кітай, Індыю, Германію.

***— Колькі каробак Вы зрабілі за гэты час?***

— Ой, не ведаю. За зіму шыла я па 300 каробак, бо пляценнем займалася ў доўгія зімовыя вечары. Шыла каробкі 20 гадоў, то самі палічыце.

***— Колькі часу трэба, каб выканаць такую каробку?***

— Калі працаўнік добра ведае рамяство, то тры з паловай гадзіны, а калі не, то і цэлы дзень.

***— Ці толькі Грабавец займаўся саломапляценнем?***

— Не, суседнія вёскі таксама: Тапаркі, Рудуты, Дашы, Тафілаўцы, ну і Дубічы-Царкоўныя.

***— Які матэрыял патрэбны, каб пашыць каробку?***

— Тое, чаго было ўдосталь. Салома была шырокадаступнай. Хлюбы былі з ляшчыны, а салома жытняя — спецыяльна ачышчаная на дошцы з убітымі цвікамі.

***— Чаму сёння не шыецца каробак?***

— Адказ вельмі просты — няма запатрабавання. Цяпер з бярозы робяць розных звяроў, дрэўцы.

***— Можа, Вы самі прабавалі шыць паводле ўласнага ўзору?***

— На жаль, не. Рабіла тое, што і іншыя рабілі, проста — па заказе.

***— У Вас у хаце, напэўна, шмат такіх вырабаў.***

— Не, я на іх не магу ўжо глядзець, хаця іх купляюць паны! Калісьці гэта было неабходнае ў гаспадарцы, каб захаваць зерне, адзенне. Сёння народным мастацтвам займаюцца адзінкі і гэта ўжо больш эстэтычная накіраванасць.

***— Значыць, народнае дэкаратыўнае мастацтва дажывае свой век. Ці, па-Вашаму, захаваецца такая вытворчасць у дубіцкім асяроддзі?***

— Шмат хто з маладых людзей умее шыць каробкі, рабіць дрэўцы. Навучыліся, бо памагаюць сваім бацькам, але для іх гэта далёкае мінулае.

***— Дзякуем Вам за размову. Трэба нам, маладым, глянуць усё ж на вёску, якая даўней жыла буйным жыццём, і задумацца: чаму ў канцы XX стагоддзя многія беларускія вёскі зарастаюць травой, а ў комінах старых хат гудзе толькі вецер.***

Кася Младзяноўская,
Кася Рыбак, Данік Рута,
Томак Жак, Андрэй Пракапюк,
Бася Андраюк, Мажэна Бадавец,
Марта Саевіч,
Моніка Старасельнік

# Польска-беларуская крыжаванка № 33

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Kankan | Apal | Saga | Tron | Rząd | ▼ | Cło | ▼ | Słomka | |
| Igliwie ► | | | | | | | | | Cios | Róg, brzeg |
| Aparat ► | | | | | | | Łuk ► | | | |
| Okazja ► | | | | | | | Oda ►<br>Tył | | | |
| Klan ► | | | | | | Fortel ► | | | | |
| Jenot | | | | | | Akr ► | | | | |
| ► | | | | Woda ► | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 29:** Сто, вафля, лук, індык, аўтар. Заліў, фунт, сэнс, сыр, вандал.

# Лянота

**Частка 5**

Можа б, Алік плакаў і да гэтага часу, каб не ўспомніў пра сваю сястрыцу Ляноту. Заняты розным іншым клопатам, ён пра яе зусім забыўся.

„Ці не дапаможа яна мне?” — падумаў Алік.

Выняў ён з партфеля пенал і паклікаў:

— Лянота, Лянота!

— Чаго хочаш ад мяне, брат мой?

— Ці не ведаеш ты, чаму не займалася сёння школа?

— Ведаю. Ты сам так захацеў.

— Як гэта я? Што ты вярзеш глупства? — узлаваўся Алік.

— Ніякае не глупства! — пакрыўдзілася Лянота. — Скардзіўся ж ты мне на ўвесь свет?

— Ага, — успомніў Алік, — скардзіўся.

— А што такое свет?

— Свет... — Алік запнуўся. — Ну, гэта так гаворыцца. Прыказка такая: яму свету мала. Або: свет нямілы... А бацькі мае, а школа — хіба гэта свет?

— Вядома, свет! — цвёрда сказала Лянота. — Усё свет! Нават магазіны і машыны. Я так думаю.

Алік пачаў здагадвацца, што здарылася няшчасце: дурная Лянота не зразумела яго і напусціла дрымоту на ўвесь свет.

— Што ж цяпер будзе? — напалохаўся Алік.

— Нічога!

— Як гэта нічога?

— А так, — адказала Лянота. — Мне падабаецца, што ўвесь свет нічога не робіць.

— Табе падабаецца. А мне што рабіць?

— Спі, гультай.

— А есці мне трэба ці не?

— Еш, хто табе не дае.

— Што есці? — горка ўсміхнуўся галодны Алік. — Ні снедання, ні абеду маці не наварыла. Сам я гатаваць не ўмею. Магазіны зачынены. Зрабі, Лянота, так, каб усё зноў было, як раней. Я не хачу караць ні бацькоў, ні свету.

— Ха-ха-ха! — зарагатала Лянота. — Калі я зніму са свету свае чары, то мне сумна будзе жыць. Зараз — усе мае сябры. А тады нават ты ад мяне адрачэшся. Ці ж няпраўда?

— Вядома, адракуся. Цяпер я бачу, што дарэмна тваім сябрам стаў, — пакаяўся Алік.

— Ну вось. А ты хочаш, каб я чары зняла. Не, даражэнькі, такога глупства я не зраблю.

— Дык я прымушу цябе! — ускрыкнуў Алік.

— Паспрабуй!

Алік успомніў, як скавытала Лянота ў пустым закутку іх дома. Відаць, ёй там не соладка жылося. „Выкіну яе зноў туды, — рашыў Алік. — Нябось, паваляецца пад плотам, дык памякчэе”. І ён, доўга не думаючы, занёс Ляноту ў закутак ды шпурнуў пад плот.

І толькі ён зрабіў гэта, як бачыць — усе вокны іхняга дома засвяціліся. На вуліцах зашумелі машыны.

*(працяг будзе)*

**Алесь Якімовіч**

# Самотны папугай

*Музыка Генадзя Шэмета*
*Словы Міры Лукшы*

Bm F♯7
Кеш-ка-па-пу-гай ўсеў-ся на пля-чы.
A F♯7 Bm
Ке-шка-па-пу-гай у пля-чо таў-чэ:
B7
Дай-це труб-ку мне пад дзюб-ку, за-зва-ню ў
Em Ref. A D
цёп-лы край! Я са-мот-ны, я са-мот-ны,
Em Bm B7 Em
я са-мот-ны па-пу-гай... Я са-мот-ны,
D Em F♯7 Bm
я са-мот-ны, я са-мот-ны па-пу-гай...

Кешка-папугай
Ўсеўся на плячы.
Кешка-папугай
У плячо таўчэ:
Дайце трубку мне
пад дзюбку,
Зазваню ў цёплы край!
Ref.: Я самотны, я самотны,
Я — самотны папугай...
Кешка-папугай
Хоча ў цёплы край
Да маленькіх негранят,
Ільвянят і сланянят,
Малпянят і страусянят
І да зебранят!
Я самотны, я самотны,
Я — самотны папугай...
Кешка-папугай
Ўсеўся на плячы.
Кешка-папугай
У плячо таўчэ:
Дайце трубку мне
пад дзюбку!
Зазваню ў цёплы край!
Я самотны, я самотны,
Я — самотны папугай!

# Ля Могілак з татуажамі



*За імі — старажытныя Могілкі.* Фота Міры Лукшы

Ёсць ля старажытнае вёскі Меляшкі, што на Гарадоцкай зямлі, таямнічыя пагоркі. Курганы. Называюць іх мясцовыя Могілкамі. Што скрываюць унутры — невядома, а на іх расце ўсё тое, што на нашых палях сеецца або садзіцца, адно толькі збіраць тое з гарбатых пагоркаў цяжэй. Пад Могілкамі, зараз за клунямі гаспадароў, разбілі сваю палатку Міхась Пятэльскі з сястрою. Запрасілі туды сяброў і мяне. А пра сельскую гаспадарку таксама крыху пагаворым, пра тое, што расце ды гадуецца ў гаспадара незалежна ад таго, што ў свеце робіцца.

— У майго дзеда Валодзі добрая гаспадарка, — кажа Міхась. — Але дзецям яна непатрэбная. Дык рашыў дзед апісаць яе на ўнукаў — на мяне або на найстарэйшую ўнучку Марту, або падзяліць між намі. Але я Марту ведаю! Хоць у яе адукацыя сельскагаспадарчая, яна тую зямлю прадасць, бо ёй трэба грошы. А я ахвотна гаспадарыў бы. Тут і жыта, і муку можна рабіць, і малако ёсць. Гаспадарка дагледжаная, дзед з бабуляй Нінай стараліся ўсё жыццё...

Міхась ужо гімназіст. Яго сястра Наталля — у пятым класе. Запрасілі яны і Бартка Мікульскага. Гэта шасцікласнік, сусед з „блёкавішча” на Сонечным Стоку ў Беластоку. З-за сямейных праблем не раз даводзілася яму часта бываць у іх дома, начаваць нават, частавацца — тата пакінуў сям'ю, мама не спраўляецца з апекай над трыма сынамі, са сваімі матчынымі абавязкамі. Але Бартэк пра гэта гаварыць не хоча. Ён задаволены гасцяваннем у Меляшках, загарэлы, не схуднеў. Вельмі любіць ездзіць на ровары. Найчасцей „бэміксамі” — вельмі разбіраецца ў марках веласіпедаў, іх прыдатнасці да „вычыну”. У „бэміксах” спецыяльныя рамы, расказвае, і іншыя „баеры”, узмацненні, каб, калі скочыш на ровары з вышэйшага мурка, рамы не паламаць. „Арыстакратыя” сярод тых, што ганяюцца на такіх адмысловых веласіпедах, „стэйсы”, збіраюцца прыняць Бартка ў свае рады — ужо выказаўся ўмеласцямі, рызыкай, адвагай. „Стэйсы” носяць разбітыя калені і локці. А тут усе, бачу, і Наталля, і Міхась Пятэльскія, і Бартэк, і Матэвуш Супрунюк, і нават маленькі Кшысь Санкевіч — аздоблены татуажамі! Налепленымі ў розных месцах, зусім часам неспадзяваных, смешнымі і страшнымі. Вядома, яны несапраўдныя, а куплены ў краме (з хрупкамі) або ў кіёску (у маладзёжных і дзіцячых часопісах). Але, кажа Бартэк, у Беластоку ў іх ёсць адна сяброўка, якая ўмее выдзергаць сапраўдны татуаж, які трымацца можа хоць паўгода, хоць усё жыццё! Яму нават і дарма зробіць яго, калі папросіць...

Кшысь, сціплы малеча (тут жа ўсе такія вялікія!) прэзентуе на грудцы з-пад кашулькі загоеную прадаўгаватую рысу — у яго былі тры аперацыі на сэрцы! Колькі давялося перажыць у свае тры з гачыкам гады! І ён у вёску праехаў з татам ды мамай, на лецішча — у бабуліну хату. І ў Супрунюкоў тут „ранча”, як кажа Матэвуш. Прабабка ўжо памерла, бабуля таксама. Хатку адрамантавалі, тут цяпер усё іначай, па-сучаснаму. Нават ставок штучны перад домікам ёсць. Быў вялікі агарод, цяпер абрабляюць крыху зямлі, рэшту передалі ў карыстанне Міхаламу дзеду. „Ну, летам тут працы больш, а зімой мала, — разважае Бартэк, — варта мець «дзялку», прыязджаць ва уік-энды, або і штодзень з Беластока. Гэта ж не так далёка, толькі гадзіна язды...”

**Міра Лукша**

**Францішак Кабрыньчук**

## Бура

Чорная вандруе хмара.
Зараз лівень будзе шпарыць.
Пачалася наўкол спешка,
над гняздзечкам няма стрэшкі!

Птушачка ляціць праз хвілю.
— Гэта ж — мама!
— Ціха, дзеткі!
Зраблю стрэшку з маіх крылляў,
вас не змочыць лівень гэткі.

*З польскай пераклаў Віктар Швед*

# Юбілей дубіцкіх пажарнікаў



25 ліпеня над вадасховішчам Бахматы адбыліся святкаванні 80-годдзя мясцовай добраахвотнай пажарнай каманды. Яе пачаткі сягаюць часоў I сусветнай вайны, калі ў Дубічах войска пакінула ручную помпу. У 1919 г. жыхары вёскі стварылі групу людзей, якія апекаваліся пажарнымі прыладамі, а потым заснавалі каманду. Першымі пажарнікамі былі Кузьма Анапрыюк, Ян Гіль, Фёдар Марчук і Грыша Карнілюк. У трыццатых гадах за арэнду сваіх палёў жыхары атрымалі ад паляўнічых другую, больш магутную помпу, якая зараз знаходзіцца ў зале традыцыі Павятовай пажарнай камендатуры ў Гайнаўцы. У той час дубіцкія пажарнікі пабудавалі драўлянае дэпо і сталі абсталёўваць пажарны воз. У II сусветную вайну ад бомбы згарэла дэпо і ўся дакументацыя. Пасля вайны дэпо адбудавалі, а члены каманды закончылі курсы па абслугоўванні пажарнай тэхнікі. Першымі абучэнне па эксплуатацыі мотапомпаў закончылі Дзмітры Кірылюк і Ян Хіліманюк, а па камандаванні пажарнай часцю — Дзмітры Анапрыюк. Пазней пажарнікі ініцыявалі пабудову на грамадскіх пачатках мураванага дэпо сумесна з клубам селяніна, якія былі здадзены ў карыстанне ў 1964 годзе. Неўзабаве прыдбалі яны пажарны аўтамабіль „Стар 25". Першым вадзіцелем машыны быў Міхал Кірылюк. У наступных гадах пажарнікі самі пабудавалі каланчу — вышку для сушэння шлангаў. У сямідзесятых гадах пажарнікі атрымалі навейшы „Стар 25" з аўтацыстэрнай. У васьмідзесятых гадах праводзілася мадэрнізацыя Гміннага асяродка культуры і пажарнага дэпо. Тады менавіта яны атрымалі чарговую машыну маркі „Ельч". Пасля некалькіх гадоў у месца зношанага аўтамабіля „Стар 25" пажарнікі атрымалі машыну „Жук", а ў сувязі з 75-годдзем улетку 1994 года — „Шкоду". У 1995 г. машыну „Жук" перадалі ўладам гміны. У гэтым жа годзе добраахвотная пажарная каманда ў Дубічах-Царкоўных увайшла ў састаў Краёвай выратавальна-вогнетушыльнай сістэмы.

На юбілейныя святкаванні прыехалі многія госці з ваяводства і павета, у тым ліку Аляксандр Усакевіч — старшыня Ваяводскага праўлення Добраахвотных пажарных каманд і адначасова віцэ-маршалак Падляшскага Сейміка, Ян Сычэўскі і Сяргей Плева — паслы ад Саюза левых дэмакратаў, войты суседніх гмін. Спачатку зайграў духавы аркестр, які дзейнічае пры Добраахвотнай пажарнай камандзе ў Чаромсе. Дырыжыруе ім Юзэф Коркус. Пасля старшыня Павятовага праўлення Добраахвотных пажарных каманд і адначасова войт Дубіцкай гміны Анатоль Паўлоўскі зачытаў даклад аб гісторыі мясцовай пажарнай каманды. Каманда была ўзнагароджана „Медалём імя Баляслава Хоміча", які прысвоіла ёй Галоўнае праўленне Добраахвотных каманд. Такі ж медаль атрымаў адзін са старэйшых пажарнікаў Ян Герасімюк. Чатырнаццаці пажарнікам былі прысвоены медалі „За заслугі для пажарнай справы", а двум — адзнакі „Узорны пажарнік".

У далейшым пажарнікі Павятовай камендатуры ў Гайнаўцы сарганізавалі паказ з сучаснага пажарна-тэхнічнага абсталявання і яго прымянення. Святкаванне завяршыў беларускі фэст. Атмасферу сапраўды разагрэлі „Прымакі", калі заспявалі „І ты прымак..." і іншыя песні. Пазней выступілі „Красуні" з Краснага Сяла. Вельмі экспрэсіўна выступіла Ала Дубец са сваімі „Каласкамі". Ад „Палюбіла я яго..." пачалі выступленне хлопцы з ансамбля „The Best" з Сямятыч. Выступіла таксама народная паэтка Анна Абрамюк са Старога Корніна, якая прадэкламавала свае вершы „Нашым пажарнікам" і „На вадасховішчы".

У час мерапрыемства можна было паглядзець выстаўкі народных вырабаў з саломы, лазы і бярозы ды „Агратурызм шансам вёскі", якія падрыхтавалі працаўнікі Гміннага асяродка культуры. Пажарнікі паказалі шэсць старых матапомп. Прадаваліся беларускія магнітафонныя касеты і кніжкі. На жаль, не было традыцыйнай танцавальнай вечарыны, г.зв. стражацкай забавы.

Старшыня каманды Яўген Кірылюк паінфармаваў, што яго часць налічвае 33 пажарнікаў і 12 членаў маладзёжнага атрада. Наракаў на фінансавыя складанасці.

За кансервацыяй абсталявання ўжо восем гадоў наглядае Канстанцін Качко, які раней 13 гадоў працаваў у Раённай камендатуры ў Гайнаўцы. Апрача яго вадзіць машыну маюць правы Міхал Млодзян і Ян Карнілюк. Запамятаўся яму пажар запаведніка „Елянка", калі агонь паглынуў звыш ста гектараў лесу. Канстанцін Качко паведаміў таксама, што супольна з Гміннай управай пажарнікі карыстаюцца механічнай майстэрняй, у якой рамантуюць зношанае абсталяванне (16-гадовы „Ельч" і 28-гадовая „Шкода"). Ці пры яго дапамозе можна пасяхова ахоўваць ад пажару гміну, пакажа час. Трэба памятаць, што



ў Дубіцкай гміне знаходзіцца звыш 7 тысяч гектараў лесу, у тым ліку і фрагменты Белавежскай пушчы з двума запаведнікамі. Карыстаючыся нагодай, жадаю пажарнікам з Дубіч-Царкоўных чарговых юбілеяў і як найменш пажараў.

**Славамір Кулік**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Расспяваліся ў Чаромсе

Ох і расспяваліся сёлета ў Чаромсе! Яшчэ не вызваліліся людзі ад уражанняў і эмоцый, якіх даставілі для іх „Польска-украінскія музычныя сустрэчы", як загаварылі ў пасёлку аб чарговым мерапрыемстве — народным фэсце.

Праўда, з'явіліся тут пэўныя разнагалоссі наконт яго назвы, ды ўсім стала вядома, што тычыцца гэта адной і той жа падзеі (у паведамленнях пісалася аб „народным фэсце", а БГКТ называла яго „беларускім").

Так ці інакш нельга паменшваць ролі паасобных суарганізатараў. А былі імі Галоўнае праўленне БГКТ, Гмінная ўправа і мясцовы асяродак культуры ў Чаромсе пры выдатнай фінансавай дапамозе спонсараў — Страховачнай кампаніі „Polisa S.A.", пенсіянернага фонду „Ego" з Гданьскага банка, як і мясцовых прадпрымальнікаў — цывільнай суполкі „KING", Анны Алексяюк і Тамары Нічыпарук.

Яшчэ да пачатку мерапрыемства пачалі збірацца перад мясцовым асяродкам культуры першыя гледачы. Разумеецца, што гаворка ідзе тут пра дзяцей і моладзь, якія заўсёды намагаюцца заняць сядзячыя месцы. Але было сярод іх і шмат дарослых. Хачу адзначыць, што ў час афіцыйнага адкрыцця фэсту мала дзе бачылася вольнае месца. А публікі ўсё больш прыбывала. Многія стаялі за агароджай пры вуліцы. Некаторыя занялі месца пад парасонамі, побач кіёскаў з півам. Асноўная аўдыторыя змяшчалася насупраць сцэны на лаўках. З прывітальным словам выступіў войт гміны Міхал Врублеўскі, які назваў арганізатараў мерапрыемства і прозвішчы гасцей: намесніка генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку з жонкаю, пасла ў Сейм Яна Сычэўскага, сакратара Галоўнага праўлення БГКТ Валянціну Ласкевіч і іншых.

Валянціна Ласкевіч выклікала на сцэну першы калектыў — „Медуніцу" з Ваўкавыска. Публіка цёпла ўспрыняла выступленне беларускіх артыстаў. Пасля кожнага нумара чуваць было бурныя воплескі.

— А зараз аддаем голас моладзі, — абвяшчаючы наступны нумар праграмы, заявіла вядучая. — Выступаюць беластоцкія „Каласкі"!

Гэты калектыў не патрабаваў рэкамендацыі. Неаднойчы выступаў ён у Чаромсе і спадабаўся публіцы. Так было і гэтым разам. Асабліва спадабаліся гледачам песні ў выкананні Алы Дубец „Знічка" і „Сусед". Затым з'явіліся на сцэне хлопцы з Беластока — „Капры". Іхнія „Распрагайце хлопцы коні" ці „Дарма Ясю ходзіш" не толькі падбадзёрылі публіку, але і заахвоцілі некаторых гледачоў памагчы спяваць членам калектыву.

Некалькі слоў хачу тут сказаць пра дзіцячы калектыў з Чаромхаўскай пачатковай школы, якім кіруе Барбара Кузуб-Самасюк.

— Гэта ў будучым сапраўдныя наследнікі „Чарамшыны", — сказала Валянціна Ласкевіч.

Я таксама з гэтым пагаджаюся. Прыгожыя галасы ды інтэрпрэтацыя тэксту зліваліся ў адну гармонію, выклікалі ў гледачоў зацікаўленне і ўражанне.

Калектыў „Арэшкі" я ўпершыню агладаў у Чаромсе. І прызнаюся шчыра, што жанчыны з Арэшкава зачаравалі мяне. Не толькі сваімі прыгожымі галасамі, але і рэпертуарам. А рэпертуар „Арэшкаў", гэта мясцовы фальклор — народная скарбніца. На ўвагу заслугоўвае тут песня „Пасадзіла рожу край вокна", якая і завяршыла выступленне „Арэшкаў".

Гітам фэсту аказалася выступленне сямятыцкага „The Best". Пасля кожнай песні не сціхалі доўгія бурныя апладысменты. Асабліва пасля „Палюбіла цыгана" чуліся галасы сярод публікі „Jeszcze, jeszcze...". Калі выконвалі „Моцны вецер", я бачыў як дзяўчаты з Ваўкавыска тупалі ў рытм мелодыі і здавалася, што зараз закружацца ў танцы.

— Не можам дазволіць на бісы, — гаварыла Валянціна Ласкевіч. — У нас абмежаваны час. У 17 гадзіну нас чакаюць у Кляшчэлях. Гэта за 15 мінут можна пехатою з Чаромхі прайсці, — жартавала. — Наш канцэрт пачынаецца выступленнем „Медуніцы", калектыву з Ваўкавыска, а завершыць яго калектыў „Вяселле", таксама з гэтага горада. Прыехалі нашы беларускія сябры да нас, каб супольна правесці вольны час ды паспяваць. Для гэтай справы няма граніц і песня граніцаў не знае, — завяршыла вядучая.

Калі аглядалася „Вяселле", здавалася, што вось-вось публіка закружыцца ў рытм полькі „Трасухі" і пачне супольна спяваць „Дзе б я не ехала" ці „Мамачка родная". Але не толькі гэтыя нумары заслугоўваюць на ўвагу. Уся праграма адзначалася высокім мастацкім узроўнем. За гэта гасцям з-за мяжы належацца словы пашаны і падзякі. Здавалася б, што песняй „Ой ходым-ходыма жонка" калектыў завершыць праграму. Аднак пасля кароткага перапынку „начальства" калектыву рашыла крышку больш павесяліць публіку. Канцэрт працягваўся.

Пачулася „Вяне рута" ў выкананні мужчынскага дуэту, як і некалькі іншых песняў, а між іншым, развітальная, усім добра вядомая „Бывайце здаровы". Яна ў сапраўднасці завяршыла канцэрт. Адыходзячы дамоў я на хвіліну спыніўся каля сябры Мікалая Леўчука, пенсіянера з Чаромхі, які сказаў мне такое:

— У нядзелю прыгожа спявалі з Роўнага, аднак сённяшні канцэрт мне больш спадабаўся. Быў больш жывы і кранаў за сэрца.

Я згодны са сваім прыяцелем. Але варта было б прыслухацца і іншым галасам.

**Уладзімір Сідарук**

# Месца асвячанае малітвай



Фота Багуслава СКОКА

Са святой Гарой Грабаркай цесна звязаны дзве легенды, якіх спалучаюць два элементы: прыстанішча і выратаванне. Паводле першай, у пачатках XIII стагоддзя ўзгор'і вакол Грабаркі былі асвячаны малітвай манахаў, якія ў час татарскага нашэсця вымушаны былі ўцякаць з Прачысценскага манастыра ў Мельніку і шукаць тут прыстанішча. Манахі ўзялі з сабою цудадзейную ікону Спаса Ізбаўніка. Асаблівае шанаванне Спаса знайшло сваё адлюстраванне ў назве капліцы, а пасля царквы.

У іншай, больш пашыранай легендзе расказваецца, што каля 1710 года на Гару Грабарку ўцякалі людзі з Сямятыч і наваколля, каб выратавацца ад эпідэміі. Тады аднаму старэчы ў час відзежы было аб'яўлена, што ўсе, якія пойдуць на ўрочышча Сумiншчына за рэчкай Машчонай і нап'юцца вады з крыніцы, па волі Божай атрымаюць аздараўленне. Тыя, што паслухалі старэчу, выратаваліся.

Пазней на гары была ўзведзена капліца, вакол якой ставіліся пакутныя крыжы. Драўляная Праабражэнская царкоўка — паводле народнага падання — была перавезена з Мельніка. У 1886 г. была яна перабудавана. Здавён-даўна з усяго Падляшша на Гару Грабарку ішлі паломнікі з пакутнымі крыжамі з надзеяй атрымаць аздараўленне. У 1987 г. вакол царквы стаяла больш за 10 тысяч драўляных крыжоў.

У 1947 г. на Гары Грабарцы быў заснаваны жаночы манастыр св.св. Марфы і Марыі — адзіны ў пасляваеннай Польшчы. Гэта яшчэ больш падмацавала значэнне святога месца, куды штогод 19 жніўня, на Праабражэнне Гасподняе, прыбываюць дзесяткі тысяч паломнікаў з усёй Польшчы. У 1982 г. на Гары Грабарцы быў устаноўлены прыход, які нясе духоўную паслугу жыхарам навакольных вёсак. Ноччу з 12 на 13 ліпеня 1990 года драўляная царква згарэла ў выніку злачыннага падпалу. Аднак трагедыя не пахіснула дух вернікаў і ўжо 19 жніўня гэтага ж года быў пакладзены краевугольны камень пад будову новага храма. Гэтая ўрачыстасць адбылася ў прысутнасці 60 тысяч паломнікаў, калі раней звычайна гуртавалася іх у дзень Праабражэння Гасподняга 20 тысяч. Будова новай Праабражэнскай царквы завяршылася ў 1995 годзе.

А вось як паломніцтва на Гару Грабарку ўспамінаюць старэйшыя людзі:

— Упершыню пайшла я на Грабарку, калі мне было 14 гадоў. Жыла я тады ў Пашкоўшчыне, — расказвае 58-гадовая жыхарка Орлі Марыя Федаровіч. — Тады не было яшчэ капліцы на калодзежы, а нават мастка. Людзі ішлі проста цераз рэчку. Ларкоў таксама не было. Хадзілі мы нанач, на вячэрню. Пазней ездзілі на фурманках. Паломнікі тройчы абыходзілі царкву на каленях, затым ішлі ў царкву, а пасля ў манастыр на багаслужбу. Назад вярталіся мы поездам у Рыгораўцы, адкуль дадому было ўсяго 3 кіламетры. Памятаю, што ў Лукашука з Пашкоўшчыны моцна хварэла жонка. І ён зрабіў вялікі драўляны крыж, які на Грабарку павезлі на двух вазах. Пасля ўстанаўлення крыжа хворай палепшылася здароўе. Калі я выйшла замуж у Орлю, то на Спаса хадзіць ужо толькі муж, бо адной асобе трэба застацца на гаспадарцы.

— А я хаджу ўжо 46 гадоў, амаль безупынна. Толькі двойчы застаўся я дома, каб даць магчымасць паломнічаць жонцы, — прызнаецца 56-гадовы Мікалай Федаровіч, муж Марыі. — Упершыню апынуўся я на Грабарцы будучы 8-гадовым хлапчуком. Хварэў я на нагу. Бабуля, якая мяне выхоўвала, паслухала суседзяў і дазволіла мне паломнічаць на святое месца. Амаль усю дарогу мяне неслі, хаця трохі падскокваў я на адной назе. Калі на Грабарцы мае раны абмылі цудадзейнай вадой, праз тыдзень рана загаілася. З гэта часу на Грабарку паломнічаю толькі пешшу. Двойчы хадзіў я ў калектыўнай пілігрымцы, але за другім разам пакінуў групу і пайшоў сам, бо не магу глядзець на паводзіны сённяшняй моладзі, напрыклад, не шануюць яны хлеба, лаюцца, паціху папіваюць віно... Паломнічаю сам і абавязкова нясу крыж. З Орлі ў Грабарку — 50 км. Калі выходжу ў 4 раніцы, паспяваю на 17 гадзіну. Па дарозе знаёмыя чакаюць мяне, каб далучыцца і разам спакойна дайсці на святую Гару Грабарку. А калі паломнікі з Саколкі ішлі цераз Орлю, то ў нашай хаце начавала 8 чалавек.

Малады чалавек, 28-гадовы Міраслаў Федарчук з Бельска-Падляшскага, намеснік старшыні Брацтва праваслаўнай моладзі, які святую Гару Грабарку наведвае два разы ў год, так успамінае свае паломніцтвы:



*Міраслаў Федарчук Гару Грабарку наведвае два разы ў год.* Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

— Штогод у маі адбываецца трохдзённы злёт праваслаўнай моладзі. Удзельнічаю ў ім з 1992 г. А на Спаса паломнічаю з 1991 г. Цяпер паломнікі прыносяць з сабой камяні, з якіх ужо з аднаго боку ўзводзіцца мур, але не перасталі насіць і крыжоў. Сёлета ў маі выпускнікі сярэдніх школ і студэнты таксама паставілі многа крыжоў. Я прыязджаю на Грабарку памаліцца і папрацаваць пры захаванні парадку ў час святкаванняў. На святую гару выязджаю ўжо 9, а вяртаюся 22 жніўня. Пасля вяртання дамоў адчуваю сябе духова і фізічна адноўленым чалавекам, забываю пра штодзённыя клопаты.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Ікона Нерукатворнага Спаса ў Рогаўцы

У Рогаўцы, як і ў навакольных вёсках Крупіцах і Цацэлях знаходзяцца старажытныя могільнікі (могілкі) усходніх славян. Цяперашняя царква знаходзіцца на ўзгорку, на колішнім могільніку XII-XIII стагоддзяў. З заходняга боку могільніка захаваліся рэшткі каменнай канструкцыі, абкладзенай вялікімі камянямі. Рашэннем Ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беластоку ад 1985 г. на ёй была змешчана таблічка з надпісам: „Cmentarzysko słowiańskie z XII w.". У пісьмовых крыніцах вёска Рогаўка, інакш *Рохаўка*, згадваецца пад 1537 г., калі войтам быў Войцех Нардулоўскі. Пад 1563 г. адзначаны былі 2 валокі грунту, якія Зыгмунт I Стары перадаў Прачысценскай царкве ў Драгічыне, а якія знаходзіліся паміж Рогаўкай і Сыткамі. У 1627 г. Зыгмунт III Ваза перадаў колішняе наданне Прачысценскай царквы ў вечнае карыстанне манастыру бенедыктынак у Драгічыне. А пад 1646 г. згадваецца, што ў Рогаўцы існуе царква ў гонар св. Дзімітрыя, забяспечаная Аннай — жонкай Мікалая Любецкага. У 1726 г. гэтая царква акрэсліваецца *jako stara*.

Пачынаючы з II паловы XVIII ст. вёска Рогаўка належыць Сямятыцкаму прыходу. Цяперашняя царква ў гонар св. Сымона Стоўпніка пабудавана была ў 1854 г., аб чым нагадваў надпіс над уваходам: *Ta kaplica wystawiona staraniem Szymona Szunowicza 3 maja 1854 r.*, які захоўваўся да 1946 г., калі падчас рамонту быў устаранёны.



На самым высокім месцы могільніка быў пахаваны заснавальнік царквы, а на ўстаноўленым на магіле камені з жалезным крыжам высечаны быў надпіс: *Здесь покоится строитель церкви Симион Шум.*

Храмавое свята ў Рогаўцы адзначаецца 16/29 жніўня ў гонар *Нерукатворнага Вобраза Спаса (Трэцяга Спаса)*. 16 жніўня ўшаноўваецца таксама каталіцкі святы — Рох і навакольнае насельніцтва вельмі часта гэты дзень называе святам *Роха*, хаця святкаванні праводзяцца 29 жніўня. Адказ на гэтае пытанне трэба шукаць у XIX ст., калі на гэтай тэрыторыі да I сусветнай вайны Каталіцкі касцёл і Праваслаўная царква карысталіся юліянскім календаром (стары стыль). У дзень 16 жніўня ў суседняй каталіцкай парафіі ў Мілковіцах ушаноўваўся дзень св. Роха, якога лічылі заступнікам пакутуючых ад чумы. Калі ў 1893 г. у наваколлі Сямятыч успыхнула эпідэмія халеры, кожная вёска пасля адслужэння святой літургіі ладзіла хрэсныя ходы. Жыхары Рогаўкі вырашылі ахвяраваць ікону *Нерукатворнага Спаса*, а дзень 16 жніўня паводле юліянскага календара, калі адзначаецца *Перанясенне з Эдэсы ў Канстанцінопаль Нерукатворнага Вобраза Госпада Ісуса Хрыста*, прызналі сваім храмавым святам.

Пра гісторыю іконы распавядае наступнае паданне. У час пропаведзі Збавіцеля ў сірыйскім горадзе Эдэсе правіў цар Аўгар. Ён быў увесь пакрыты праказай. Чутка аб вялікіх цудадзействах Хрыста дайшла да цара. Аўгар напісаў пісьмо Збавіцелю з просьбай прыйсці і ацаліць яго. З пісьмом паслаў ён у Палесціну свайго жывапісца Ананію, даручыўшы яму намаляваць Хрыста. Ананія знайшоў Хрыста ў Ерусаліме, акружанага народам. Ён паспрабаваў намаляваць вобраз Госпада, аднак гэта яму ніяк не ўдавалася. Збавіцель Сам паклікаў яго і перадаў Аўгару пісьмо з настаўленнямі ў веры. Затым Гасподзь папрасіў прынесці ваду і ручнік. Ён умыў твар, абцёр ручніком, і на ім адлюстравалася Яго Божае Аблічча. Гэты ручнік і пісьмо Ананія прынёс у Эдэсу. Цар з глыбокай пашанай прыняў святыню і неўзабаве быў цалкам пазбаўлены ад невылечнай хваробы. Доўгі час Нерукатворны Вобраз захоўваўся ў Эдэсе, але, пасля захопу горада арабамі, візантыйскі імператар Канстанцін Багранародны перанёс яго ў Канстанцінопаль (944 год).

Ікона *Нерукатворнага Вобраза Спаса* дапамагла, як сцвярджаюць жыхары, пратрымаць эпідэміі XIX ст. і бежанства 1915-1919 гг. у глыб Расіі. Жыхары Рогаўкі, Крупіцаў і Цацэляў ля ўвахода ў царкву ўстанавілі тры крыжы на знак падзякі за выратаванне з ваеннага ліхалецця. Сама ікона захоўвалася ў царкве да 20 снежня 1980 г., калі храм быў абкрадзены невядомымі злачынцамі. Цяперашнюю ікону напісала пакойная Вера Нерашчук з Кляшчэляў.

Стара даўні звычай наведвання з іконай у дзень храмавога свята кожнага дому ў Рогаўцы і малітва святара за дамачадцаў у ім захаваўся да сённяшняга часу. Ікону носяць выключна халастыя юнакі. Трэба спадзявацца, што гэты звычай захаваецца і ў будучым. Сам Ісус з'яўляецца вобразам Айца, і, як запісана ў Евангеліі, *хто бачыў Мяне, бачыў Айца* (Іаан, 14:9).

**(агс)**

**Вітак Латыш на нікога фэкага слова не сказаў, а такое яго спаткала... Але Бог не даў такому чалавеку памерці.**

# Месяц над Меляшкамі



Трыццаць гадоў таму я, разам з Крысяй Пятэльскай і Ленкай Дамань, убачылі месяц. Праўда, бачылі мы яго і раней, але па тым Месяцы, у той ліпень, падскокваючы як мячыкі, хадзілі Нейл Армстранг і Эдвін Олдрын. А месяц, звычайны-незвычайны, спакойна плыў паміж хмарамі над старажытным курганом-Могілкамі. А вёска Меляшкі, тады шматлюдная, здавалася мне, прыехаўшай з дзедкам у госці, таксама чымсьці незвычайным — тут казалі „ён", „яна" і „ёсць", і раслі тут старыя, мо двухсотгадовыя дупластыя ліпы, а на чысценькай вуліцы пакладзены былі з абодвух бакоў пліты тратуара.

З тых колішніх нас, тады малых, таксама ўжо шмат каго няма. Ніколі не прыедзе ў Меляшкі дробненькая, мілая, шчырая да шчымлівасці Лена, забітая дэгенератам у мінулым годзе. Параз'язджаліся па свеце маладыя. Але вяртаюцца. З дзецьмі. Аднаўляюць хаты дзядоў і бацькоў.

Дзецям тым цікава, куды іх прывозяць, ды, здаецца, ніхто ім яшчэ нічога не сказаў пра гісторыю Гарадоцкай зямлі. „Раскажы, цёця, пра Могілкі, пра Хадкевіча, больш пра Меляшкі," — просіць мяне Наталя Пятэльская. А Міхась, ён больш зацікаўлены М. Арлом — ён жа Пятэльскі, а з Меляшкоў быў сам паэт-нашанівец Янук Д. — Даршкевіч, сябра Арла Каршун. Сядзім пад Могілкамі, ля каляровай палаткі, якую ад гарадоцкага аўтобуса (5 кіламетраў) прывалок Міхась. А дзед Валодзя з падворка бубніць пацыху: „Як то можа быць, 25 злоты за мэтар, а 180 — за камбайн! Проста здзек з сялянскае работы!"

Але Алёша Карповіч, шчэ ў акуратным касцюме (вярнуўся само са спеваў пенсіянерскіх з Гарадка) усё сваё, і да цёткі Фані пасміхаецца:

— Э, добро е, жыце е, у-ха-ха, грошы е, у хаці е...

На вуліцы, пакуль управішся, і пасля — тое „жыце е" — усё трэба абсудзіць. То куры прапалі, то сабачэне навасельцаў, гуляючы, адну крыху пацерабіла. То адзін вечны кавалер плёнтаецца туды-сюды па сяле, „хай бы ішоў ужо дахаты, а то мусіць так напіцца, што ўжо не можа ісці". „Спиртика не надо?" — дапытваюцца ўжо з трэцяй сёння машыны (цяпер гродзенскі „Фольксваген-гольф") — сёння гандлю ім, вядома, не будзе. Успамінаюць біяграфію спадара Карповіча, як то ў Германіі быў, пасля ў Савецкім Саюзе, а брат ягоны Барыс, што вялікай шышкай у міліцыі быў, паехаў быў туды і забраў, дзякуй Богу, на радзіму, ужо з жонкаю. А там Аляксей столярам быў, і трункі людзям рабіў. „Ідзе Алёша — дык бабы на вуліцу павыходзяць!" — бо без Алёшыных прыпевак сумныя былі б Меляшкі. І Іван Лавіцкі, пляменнік Янука Д., любіць вярнуцца да матчынае хаты, і ён, вой, як паспяваць любіць! Пра канец свету ў Меляшках гаварыць не гавораць і не хочуць гаварыць, „бо гэтага ніхто не знае — ні часа, ні гадзіны, нат ангелы і архангелы не ведаюць". Лепш паказаць, як Карповіч, свой свет — „мая хата, мая ластавачка..." Вяргіні ў яго пад акном хаты аж пад шчыт, хоць без гаспадыні жыве — падвязаў акуратна іх дротам; і морквачка, капустачка, гарох вось сабраў ужо... Тры ўшчэпкі, што на дзікіх яблыньках... „Усё жыццё ў працы было, — кажа. — Хцівасць, каб усё рабіць, каб быць, жыць, каб каму што зрабіць"...

— А там хата пустая, і тут, і тут... А там, дзе спадарожнікавая антэна — Яроцкія жывуць, двух хлопцаў, кавалеры. Без гаспадынькі, а самі ўсё ўмеюць рабіць, піражкі спякуць, — хваліць суседаў спадар Карповіч. — А там — дом Юрка Лавіцкага, колькі ён кароў мае, абораў! А тут маладыя тры хлопцы. Нядбалыя — цячэ дахоўка, гніе сцяна — а ім нічога не трэба...

Зноў перабег косым ходам Я. Азваўся косай мовай да солтыса, Віктара Латыша, што на лавачцы адпачывае. Як можна лаяцца ў кампаніі жанчын?!

— Кавалеры? — усміхаецца Латыш сумнай, аднабокай усмешкай. — У мяне чацвёрка: найстарэйшаму 22, наймалодшаму 16. На вёсцы яшчэ двух такіх маладзейшых і дзве дзяўчыны. Вось і ўсё. А ў школе цяпер швейны завод.

— З Гарадка прыязджаюць працаваць, — заўважае Ліля Латыш, солтысава жонка. — Я там прачу, бракую, адчыняю і зачыняю наш „завод"...

— І я там рабіў да выпадку... — уздыхае Латыш. — Чалавек вачыма рабіў бы ўсё, а як стане рабіць — не дасць рады. Злуецца, нервуецца. Так то. Сем аперацыяў прайшоў. Правае вока не заплюшчваецца, бачу падвойна. Сонца, вецер — пячэ. Засланяю бінтом. Можа, прывык быў, што яго раней зашылі... Апошні раз быў у красавіку ў Кракаве — мелі там зрабіць аперацыю на вачніцы, але не зрабілі. Твар выраставалі з аднаго боку. Да жніўня меў я трапіць у Кракаў на кантроль, каб зрабіць яшчэ адну аперацыю, але дохтарка не дазволіла ехаць. Чаму? А Каса хворых? Гэта вялікія грошы! Папярэднім разам Падляшская Каса хворых дамовілася з Малапольскай на 68 старых мільёнаў. То што я маю рабіць, пытаюся ў лекаркі. „Маю цяжкасці скіраваць пана ў Кракаў, дырэктар грошай шкадуе, пытаецца, ці дзе ў нас нельга апераваць." Можа, дайшлі да вываду, што нічога не атрымаецца? Паправілі мне гэты бок, дзе косць была паламана, наводзілі яе на месца. У беластоцкай акулістыцы доктар Бярнацка сказала мне ў кастрычніку, што тое падвойнае бачанне застанецца мне да канца жыцця. А ў ваяводскай акулістыцы па Браніцкага сказалі, што да двух гадоў трэба чакаць, каб нерв вярнуўся. Не маю тварнога нерва, ён адбудоўваецца, адрастае да двух сантыметраў у год. Чаcам адчуваю, як там ужо цікае, дрыгае, чую дотык на твары, але ні вокам не варухну, ні губы стуліць... Ні напіцца, ні паесці...

Над той магілай іх было тады трох — Латыш і двух маладзейшых.

— Капаў толькі я, бо колькі ж улезе ў тыя два метры. Я толькі ўчуў, як крычаць наверсе: „Вітак, уцякай!" Я падняў галаву. Звалілася на мяне з двухметровай вышыні верхняя частка крыжа. На галаву.

— Каб не бачыла, то не так страшна было б, — яшчэ калоціцца на ўспамін спадарыня Ліля. — Кроў юшыць, ён стаіць ракам, з галавы ўсё здзерта, косткі наверсе, вачэй не відна! Я адразу гатова... А ў бальніцу раніцай пусцілі — о, Госпадзі, як убачыла — чалавек-не-чалавек, галава падвойная, сіні, вочы наверх выперла... Пападключаны, пазашываны.... Не будзе... з яго ніц!!. Ніхто не даваў яму жыцця. Дактары не спадзяваліся. Выжыў. Малы найбольш вішчаў: „Чаму гэта якраз з маім татам? Такі добры чалавек! Хай бы Бог падзяліў на траіх!" Сынавы калегі з Брацтва падалі на абедні, прыязджалі, маліліся. Бог памог.

— Так мусіла быць, на мяне папала. Сам быў: думаў ехаць — не ехаць, але ж трэба памагчы.

— На нікога фэкага слова не сказаў. Нікому не адказаў.

— Бо калі хто мяне просіць, то думаю, каб і мне ніхто не адказаў у патрэбе. Знаюся на электрычнасці. А калі пайду каму што пастроіць, то хочаш зрабіць добра, каб пасля не наракалі... Калі я апрытомнеў тады пасля некалькіх дзён, папрасіў, каб бацюшку прывялі. Можа, мне збіралца ўжо трэба? Можа, я так саграшыў, што мяне так Бог карае? Гэта ж на могільніку, дый крыжам...

Змог тады Вітак Латыш, на якім ледзь знайсці было месца для мірапамазання, не піўшы ды не еўшы доўгія суткі, прамовіць святымі словамі „Веpую" і „Ойча наш", прычасціцца. Маліліся за яго і меляшкоўцы, за свайго солтыса, гаспадара, бацьку чатырох сыноў. Добрага чалавека.

Шмат яшчэ слоў запісалася на безудзельна ляжачым на маім падоле маленькім дыктафоне. Пра палітыку, пра жыццё, пра космас. Ноч ужо была, халодны марак гусцеў пад месяцам. Заўзятае, шчырае траскатанне цвыркуноў запісалася на стужку як... тарахценне камбайна ці касілкі. Не запіша тэхніка прыроду і праўду, хоць яна, тэхніка, больш, здаецца, аб'ектыўная ад чалавечае памяці.

**Міра ЛУКША**
*Фота аўтара*

# Было сяло

Вёсачка Гнілец схавалася ў глыбі Белавежскай пушчы паміж Барысаўкай і Бярначчынай, паўтара кіламетра ад чыгуначнага прыпынку паміж Гайнаўкай і Семяноўкай, які таксама называецца Гнілец. Даехаць у вёску можна ляснымі калдобістымі і непазначанымі дарогамі. У вёсачцы сёння чатыры хаты. Адна з іх стаіць пустая, у другой пражывае адна асоба, у трэцяй — дзве, а ў чацвёртай — шэсць асоб. У апошняй сям'і двое дзяцей школьнага ўзросту, якія веласіпедам даязджаюць у Навасады, а адтуль школьны аўтобус забірае іх у школу ў Дубіны.

Калісь Гнілец быў вялікаю вёскай, расказвае Мікалай Сухадола з Галубоў, якія афіцыйна называюцца Падляўкоўем; яго бабуля паходзіла менавіта з Гнільца. Вёска была распаложана на паўднёвым баку рэчкі Яблынёўкі, а на другім беразе стаяла царкоўка. Зямля была тут слабая і таму сяляне надумаліся пашукаць другога месца для свае вёскі. Выслалі двух пасланцоў у Расію, у мясцовасць Хомск. Пасланцы вярнуліся і сказалі, што там, куды яны ездзілі, вельмі добрая зямля. Пачуўшы такую вестку ўсе жыхары Гнільца пакінулі свае палеткі і падаліся ў далёкае падарожжа. Калі яны заехалі ў Расію, пабачылі, што там адно верасы, а не ўрадлівая зямля. Схапілі яны тады аднаго з тых пасланцоў-аднавяскоўцаў, якія іх так каварна абманулі, і забілі; другому пасланцу ўдалося ўцячы. А царкоўка, як яшчэ згадваюць некаторыя старажылы, была перавезена на ласінскія могілкі, дзе стаіць і па сённяшні дзень.



*Тут калісь стаяла царква, паказвае Мікалай Сухадола.* Фота А. ВЯРБІЦКАГА

Паміж Гнільцом і Барысаўкай была калісь яшчэ адна вёска — Сёлка. І яе жыхары раз'ехаліся па свеце, на яе месцы вырас лес і следу па ёй не асталося.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Наш хлеб надзённы

**Асноўным прадуктам харчавання для чалавека з'яўляецца хлеб. На Падляшшы, між іншым дзякуючы вялікай канкурэнцыі, цана хлеба самая нізкая ў краіне.**



**Не даражэе, затое худзее**

Пякарні ў змаганні за кліентаў стараюцца заахвоціць пакупнікоў набываць свой тавар па ніжэйшых цэнах, прымяняючы дзеля гэтага розныя прыёмы. Найпрасцейшы метад — зменшыць вагу буханкі замест павышаць яе цану. Цяпер амаль не сустракаюцца буханкі вагою больш за кілаграм. На рост коштаў вытворчасці хлебнай прадукцыі мае ўплыў час работы — хлеб выпякаецца ноччу і раніцай, за што пекарам належацца дадатковыя грошы. Таму пякарні стараюцца прымаць на работу вучняў, якім можна плаціць менш.

Спажыўцы прызвычаіліся купляць кожны дзень свежы хлеб. Гэта датычыць не толькі гарадоў і мястэчак, але таксама і вёсак. З нядаўняга часу ў вёскі некалькі разоў у тыдзень заязджаюць аўталаўкі з хлебам і іншымі прадуктовымі таварамі.

**Старадаўнія рэцэпты**

Калісьці на вёсцы, калі жанчыны выпякалі хлеб на патрэбы сваёй сям'і, гэтаму занятку спадарожнічалі народныя звычаі, абрады, прымхі, прыказкі. У таемны свет хлебнай абраднасці ўводзіць нас **Марыя КАЧАН-ФІЛІМАНЮК** (на здымку)— 78-гадовая жыхарка Кашалёў Арлянскай гміны.

— Падчас выпечкі хлеба трэба было прытрымоўвацца розных забарон. Напрыклад, нельга было рашчыняць хлеб жанчыне ў перыядзе менструацыі, бо гэта лічылася грэхам і пагражала закальцам. Нельга было выпякаць хлеб, калі гаспадар вазіў з хлявоў у поле гной. Хлеб не вырасце, калі гаспадар неразважліва пакладзе шапку на дзяжу. Падчас усаджвання бохнаў у печ, гаспадыня шчыльна зачыняла дзверы і вокны, каб не было скразняку, а таксама не ўпускала чужых у хату, каб хлеб не папопаўся.

У мінулым людзі верылі ў магічную моц хлеба. На хлеб замаўлялі і пры яго дапамозе лячылі розныя хваробы ды прадказвалі будучыню. Каб не баяцца грому, трэба было з'есці кавалак цвілога хлеба, а каб суцішыць боль жывата, дастаткова было з'есці пасыпаны попелам акрайчык хлеба. Немаўлят і малых дзяцей ад благога вока абараняў кавалак хлеба, заткнуты за паясок вопраткі. Каб адчыніць урок, сурочанае дзіця купалі ў вадзе з пакрышанай спецыяльна спечаных для гэтай мэты булачкай.

Спадарыня Марыя памятае яшчэ рэцэпт на прыцягненне ўвагі хлопца да дзяўчыны. Абаім трэба было з'есці „зляпкі" — тое месца, у якім зляпіліся дзве булкі падчас выпечкі.

Сваю магічную моц мела таксама дзяжа. Напрыклад, у месцы, дзе стаяла дзяжа з рашчыненым цестам, загадвалі падскокваць дзецям, каб вышэйшыя раслі. Немаўлят саджалі з гэтай мэтай на адверненай дном уверх дзяжы.

— Калісьці ў кожнай гаспадыні была свая дзяжа, — тлумачыць Марыя Качан-Філіманюк. — Дзяжу пазычалі вельмі неахвотна, бо тады магла змяніцца закваска або дзяжа магла „папсавацца" ад пераносу. Кепскім знакам лічылася абнюхванне дзяжы сабакам або катом. Тады такую „папсаваную" дзяжу гаспадыня абкурвала дымам з всвячаных зёлак або парай ад зваранай кашы, а ўнутры націрала цыбуляй.

Дзяжу ніколі не мылі, толькі рэшткі цеста саскрэбвалі і прымянялі яго ў закваску або для атрымання хлябнога квасу. На дне аскрэбенай дзяжы жанчыны рабілі знак крыжа і выносілі ў кладоўку, ставячы яе ўверх дном.

Першым спечаным пасля жніва хлебам трэба было пачаставаць суседзяў і абдорыць ім жабракоў. Першага бохна са знакам крыжа нельга было пазычаць суседзям і трэба было яго гаспадарам з'есці апошнім. Калі кавалак хлеба ўпаў на зямлю, трэба было яго падняць, перахрысціцца і пацалаваць. Пакінутыя на стале крошкі хлеба маглі прадвяшчаць нейкую нечаканую спрэчку або сварку. Нават на зямлі нельга было пакідаць крошак, бо пасля смерці д'ябал совач імі ў вочы, даказваючы такім чынам віну грэшніку. Да нашага часу дайшла прыказка: „Хто пры жыцці хлеба не паважае, той пасля смерці яго збірае".

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

**Якія мы людзі**

# Мікалай

Мікалай, калі жаніўся, меў гадоў пад трыццаць. Выйшла была замуж ягоная старэйшая сястра ў суседнюю вёску, малодшая — у другую. Малодшаму брату бацька купіў кватэру ў Беластоку, вывучыў на магістра, купіў машыну дый ажаніў на мястовай. Мікалаю ўдалося ажаніцца, да таго ж з намнога маладзейшай Манькай са шматдзетнай беднай сям'і. Сам Мікалай лічыўся багацеем, дык Маньцы, казалі, пашчасцілася.

Мікалаевы бацькі былі ўжо старэйшымі ды хваравітымі. Бацька заўсёды кіраваў гаспадаркай, грошы трымаў пры сабе. Нават ключ ад каморы заўсёды насіў у кішэні; калі трэба было мяса ці саланіны, дык нявестцы ключ даваў, але мусіла зараз яго аддаць свекру. Надакучыла гэта Маньцы. Давай падмаўляць мужа, каб аддзяліцца ад старых. Коля паслухаў і ў другой палове хаты дабудавалі печы і перасяліліся.

Нарадзілася ў іх трое дзетак — дзве дачкі і сын. Пачала Манька кіраваць гаспадаркай. Жылося добра. Усе грошы Манька трымала пры сабе, бо муж быў непісьменны ды мала ў чым разбіраўся. А па скупасці ўдаўся ў бацьку.

Надаела ўсё гэта Маньцы, і калі муж паехаў у Беласток да лекара, Манька наняла суседзяў, забрала што лепшае з хаты ды пераехала з дзецьмі да сваіх бацькоў. Пасля купіла невялікую хатку ў горадзе. Там цяпер і жыве.

Мікалай пахаваў сваю маці. Цяпер жыве з бацькам. Бацька як ветэран мае вялікую пенсію. Мікалай таксама ўжо на сялянскай пенсіі, але ўсе грошы, якія здабудзе, аддае сястрыным дзецям. Ягоная дачка выйшла замуж, жыве ў суседнім горадзе. Сын таксама ў горадзе, ды б'ецца як рыба аб лёд, каб неяк разжыцца, выкупіць кватэру ды ажаніцца. Малодшая Мікалаева дачка выехала ў Амерыку, там выйша замуж.

Мікалай даглядае свайго 90-гадовага бацьку, дзеліцца грашыма з пляменнікамі, а пра сваіх патомкаў кажа: „Я ім нічога не дам!"

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Арыгінальны інфарматар

Два гады таму Паўночнападляшскае таварыства аховы птушак выпусціла турыстычны інфарматар „Białowieża '97-'98". Сёлета паявіўся ягоны варыянт „Białowieża 1999-2000". Wszystkiego po trochu", зменены і пашыраны. Тэкст напісаў Пётр Яховіч, уласнік прыватнай паслуговай суполкі, ужо неіснуючай у Белавежы (дарэчы, П. Яховіч упісаўся ў гісторыю мястэчка як першы тут таксіст).

Даведнік пачынаецца картай Белавежскай паляны, на якой пазначаны розныя аб'екты, якія могуць быць цікавыя турысту. А далей, сапраўды, „усяго пакрысе", значыць: адрасы мясцовых гасцініц, начлежных дамоў і прыватных кватэр (Яна Піскура, Зінаіды Бушко, Яна Бушко, Веры Наторын, Агнешкі Пашко), спісі больш важных установ, адрасы некаторых крамаў, расклады аўтобусаў на лініі Гайнаўка — Белавежа, а нават нумары тэлефонаў дзевяці пасольстваў у Варшаве.

У раздзеле з цікавінкамі падаюцца розныя інфармацыі, якія датычаць выбраных прадстаўнікоў пушчанскай фауны і флоры. Нярэдка яны могуць здзівіць чытача. Бо, напрыклад, ці наогул людзі ведаюць, што нам бліжэй да лятучай мышы чым да сабакі? У іншым месцы можна проста рассмяяцца, чытаючы, што на кожным квадратным кіламетры пушчы гнёзды робіць каля **37 кг** птушак. Аж язык свярбіць, каб запытаць: „А даследавала гэта каля 70 кг чалавека?"

Прыродазнаўчыя цікавінкі, сістэматызаваныя паводле месяцаў года, змешчаны таксама ў раздзеле „Тое-сёе ў прыродзе".

Далей прэзентуюцца запаведнікі прыроды і зуброў. Гэты першы аб'ект наближаючы чытачу выказванні людзей, якія былі ў ім толькі адзін раз, і тых, якія правялі ў ім усё сваё жыццё. Не абмінуты і Палацовы парк, ёсць кароткае календарыум пушчы, апрача таго называюцца аб'екты, якіх турыст не павінен праваронiць, маем і адрасы ўстаноў, адукацыйных цэнтраў і турыстычных бюро, якія забяспечваюць прафесійнае абслугоўванне. Даведнік зачыняе прапанова пяці экскурсій па ваколіцы, апрацаваных Пшэмыславам Бяліцкім.

Тэкст падаецца паралельна на польскай і англійскай мовах. Выданне гэтае можа прыцягнуць увагу турыста нешаблоннымі і прыдатнымі інфармацыямі. Шкада толькі, што ў некаторых месцах рэзкі фон ускладняе чытанне. Прыдалася б даведніку таксама большая графічная празрыстасць.

**Пётр БАЙКО**

# 10 гадоў БАС

Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў у Польшчы пляную **18 верасьня 1999 г.** правесьці мерапрыемства прысьвечанае 10 гадавіне рэгістрацыі арганізацыі й яе законнай дзейнасьці. Мерапрыемства адбудзецца ў Супрасьлі ў асяродку адпачынку „Пушча".

**Плян мерапрыемства**

$12^{00}$ — $14^{00}$ прыезд, кватарунак і рэгістрацыя ўдзельнікаў;
$14^{30}$ — $17^{30}$ афіцыйная частка, даклады;
$19^{00}$ — ... урачыстая вячэра;
$9^{00}$ — $10^{00}$ сьнеданьне, разьвітаньне.

У артыстычнай частцы прадугледжваюцца канцэрты Сяржука Сокалава-Воюша й Віктара Шалкевіча.

**Кошты ўдзелу ў мерапрыемстве з вогнішчам і канцэртамі**

150 зл. ад асобы (начлег, абед, сьнеданьне);
110 зл. ад асобы (без начлегу, абед, сьнеданьне);
70 зл. ад асобы (без начлегу, без абеду, бяз сьнеданьня).

Свае заявы на ўдзел у мерапрыемстве можна падаваць да **1 верасьня 1999 г.**, уплачваючы адпаведны ўзнос на рахунак БАС — **Białoruskie Zrzeszenie Studentów, PBK S.A. I O/Białystok, Nr 11101154-2857-2700-1-14** — з прыпіскай „10-lecie". Пасьведчаньне ўплаты захаваць.

# Юбілейны V З'езд

З выпадку 55 гадавіны заснавання II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім 25-26 верасня 1999 года адбудзецца юбілейны V З'езд выпускнікоў і выхаванцаў школы.

Ахвотных удзельнічаць ва ўрачыстасцях калег арганізатары просяць пералічыць да 10 верасня суму 100 зл. на рахунак: **PKO BP w Bielsku Podlaskim Nr 10201345-32883-270-1** з прыпіскай: V Zjazd Absolwentów i Wychowanków II Liceum Ogólnokształcącego z BJN im. B. Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim, ul. Kopernika 4, 17-100 Bielsk Podlaski.

**Аргкамітэт V З'езда выпускнікоў і выхаванцаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Prenumerata:*

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

**Фрашкі пра нашых**

## Дар Тодара

Навучыўся Тодар, як жыць без праблемаў.
Каб жыць без праблемаў, не трэба дылемаў.
І рубам не ставіць пытанняў яскравых,
На якія „так" ці „не" адказы паставіш.
Лепш або змоўчваць, або, так як Леху:
За тое дый за тое, а ні за што (без смеху).
Або ў той час выйсці, калі ўжо мусова
Сказаць ясна ў вочы, за кім я, панове.
Хай на іншых будзе, ну, каб не казалі,
Што макаў я пальцы... А ўсё — абы далей,
А чым цішэй едзеш, то, здаўна вядома,
Што заедзеш далей. Бы не да дурдома!

## Бізнесвуменка

Каля лесу, каля бору
Ідзе з клуначкам Хадора.
Вечарам ідзе ці ранкам,
Свой час мерыць цётка шклянкай.
Мо не шклянкай, а бутэлькай,
Бо ў яе свой бізнес вялікі:
У Хадоры і Трахіма
З натуральным бар ухілам.

А пастаўкі ёсць штодзённа
З пушчы проста, кампаньёны
(Ды не чэрці!) гоняць роўна,
Ці то раніца, ці поўнач.
Багуновы пах гарэлкі
Вёску грэе лепш чым грэлка.
Дурым, самі багацеем...
Людзьмі звацца? Хрэн з алеем!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. рымскі імператар (53—117), 4. спецыяліст па пракатцы, 6. занятак, 7. добры раднейшы за роднага брата, 9. адзінка вымярэння атмасфернага ціску, 11. ліслівец, 12. саматканая спадніца, 13. не верх, 15. правы прыток Лены, 17. металічная ручка ў сундуку, 18. касманаўт, 19. разнавіднасць агату.

**Вертыкальна:** 1. каробачка маку, 2. апорная бэлька столі, 3. прычоска ў выглядзе пышна ўзбітых валасоў, 4. прадмет пракладзены паміж двума другімі, 5. астранаўт, 6. ніткі атрымання прадзеннем, 8. колючая зброя пчол, 9. харвацкі князь, 10. аднакратнае дзеянне, 14. непрацаздольны чалавек, 16. вантробы, 17. горад у Тунісе.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 27 нумара**

**Гарызантальна:** Агра, Гарун, матрац, айва, вальс, даліна, Беларусь, волак, апартэід, батлейка, вадзі, Стрэснер, сястра, цыган, нуда, гарлач, Гаваі, акын.

**Вертыкальна:** малако, бульба, гайдамак, Амаду, сталь, вайна, секвестр, Астравец, ваба, лета, рэйд, Эдзі, падсудны, Арыман, знахар, ляжак, стыль, ранча.

Рашэнне: **Лявон Тарасэвіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Яну Карчэўскаму** з Гайнаўкі.

# Пра зладзейства

У Чылі падчас будаўнічых прац пры ўстаноўцы банкамату ў банку адзін пэруанскі работнік адкрыў сховішча, у якім праўдападобна раней зладзеі прыхавалі грошы вартасцю каля 100 тысяч долараў. Банк скварна захапіў усе каштоўнасці ўзнагародзіўшы сумленнага знаходцу банальнай падзякай. Сапраўдным зладзеям не ўдаўся захоп грошай і іхнюю ролю паспяхова перанялі банкавікі.

У другім раёне Андаў, у Калумбіі, зладзеі вывезлі з абутковай фабрыкі 756 ботаў розных фасонаў і велічыні — усе на правую нагу; боты на левую нагу былі ў другім складзе завода, на які зладзеі махнулі рукамі. А боты — гэта вельмі важная частка чалавечага іміджу: у Германіі жанчына купляе ў сярэднім восем пар ботаў у год, што выходзіць на амаль паўтысячы за ўсё жыццё. Вучоныя ўстанавілі, што калі жанчына першы раз сустракае мужчыну, у 80% выпадкаў яна свой першы позірк кіруе менавіта на абутак. Таму гэтаму элементу строю трэба адводзіць самую сур'ёзную ўвагу, у тым ліку і падчас кражы.

У згаданай Калумбіі зладзеі вельмі нахабныя, зачасцілі нават у жаночы манастыр. Манашкам давялося караўліць свой супольны дом. Падчас аднаго з абыходаў дзве сястрычкі аднаго празмерна дзёрзкага зладзея папросту застрэлілі з рэвальвера маркі Smith & Wesson.

У Маскве касірка адной з камерцыйных фірм прыйшла 13 ліпеня ў пункт абмену валюты памяняць 50 тысяч долараў. Касір кантара прыняў ад яе тыя грошы, выйшаў запасным выхадам і прапаў.

У Ізраілі зладзея, які ўкраў самаход, праследавалі беспаспяхова паліцэйскія машыны, джыпы і нават верталёты. І толькі паліцэйскаму вершніку на асле ўдалося дагнаць і схапіць праворлівага злачынца. У нас пра кемлівасць ахоўнікаў парадку расказваюць розныя анекдоты — зусім несправядліва — бо, як бачым, нават звычайны асёл можа перахітрыць найхітрэйшага хітругу.

Зладзеем можна стаць не толькі, як мы часта думаем, у выніку сацыяльных абставін, але і ў выніку лячэння. Гэта не памылка: можна вылячыцца з сумленнага чалавека на зладзея! Да такой высновы прыйшоў адзін брытанскі суд. Той суд прысудзіў 34-гадовай Патрыцыі МакКарці кампенсацыю ад шпіталя велічынёю каля паўмільёна фунтаў за тое, што яна стала зладзейкай і фальшываманетчыцай. Падала яна ў суд, што сталася гэта ў выніку няправільна дазіраванага наркозу падчас хірургічнай аперацыі праведзенай у скарджаным шпіталі восем гадоў таму. Суд паверыў сённяшняй фальшываманетчыцы.

У Японіі шырока распаўсюджана, відавочна, з'яўляецца сямейнае зладзейства, называнае пралюбадзействам. Тамашнія вучоныя распрацавалі крэм сямейнай здрады, які ў выпадку пралюбадзейства выклікае паўставанне на спіне няверната мужа пухіроў, а таксама пульверызытар, які распылены на ніжнюю частку бялізны ў сутыкненні з семявай вадкасцю фарбуе бялізну ў ярказялёны колер. Пульверызатар каштуе 280 долараў і купляюць яго амаль выключна замужнія жанчыны. Гэта вялікая ашчаднасць, бо тыдзень працы прыватнага дэтэктыва па сляджэнню мужавай нявернасці каштуе каля чатырох тысяч долараў.

А ў Амерыцы па-старому: славуты баскетбаліст Дэніс Родман вартаваць свае боты ў адной з гасцініц Нью-Йорка паставіў целаахоўніка.

**Адам Маньяк**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ленка, найдаражэйшая, толькі ты мне адна асталася...

— А што, прадаў ужо і свой самаход?

* * *

Пяцідзесяцігадовы кавалер задумаў ажаніцца з дваццацігадоваю дзеўкай. Сябар адгаворвае яго:

— Падумай ты толькі: табе будзе шэсцьдзесят, а ёй трыццаць, табе семдзесят, а ёй сорак, табе восемдзесят, а ёй пяцьдзесят! І навошта табе жаніцца з такою старою бабай?!

* * *

— Купіла я ўчора матэрыял на шлюбны касцюм...

— Выходзіш замуж? Спадзяюся, што зрабіла ты правільны выбар.

— Вядома: гэта цудоўная імпартная тканіна.

* * *

— Як думаеш, мама: добра я раблю, выходзячы замуж за Андрэя?

— Гэта найлепшы кандыдат на мужа.

— Адкуль гэткая ўпэўненасць?

— Бо ўсе мае найлепшыя сяброўкі адгаворваюць мяне ад таго шлюбу.

* * *

— Жаніся, сынок, з Кацяю; яна з'яўляецца добраю, гаспадарліваю дзяўчынай.

— Што ты, мама! Яна кульгае.

— Так, але толькі тады, калі ходзіць.

* * *

Рады для жанчын:

Не выходзьце замуж ні за гадзіншчыка, ні за дантыста, ні за фатографа. Ад першага ў пасляшлюбную ноч пачуеце „Хтосьці тут перада мною майстраваў", ад другога — „Прашу шырэй! Крыху забаліць, але крышку цярплівасці і ўсё будзе ў парадку", ад трэцяга — „Прашу зрабіць прыемны выраз твару".

* * *

Кавалер перад шлюбам малюе свой атрыбут на зялёны колер.

— Чаму так робіш? — пытае сябра.

— Бо калі мая спытае „А чаму ў цябе зялёны?", тады я ёй адкажу „А дзе ты бачыла іншага колеру?".

* * *

— Татка, хачу жаніцца.

— Пачакай, дзіця, ты яшчэ недастаткова мудры.

— А калі буду мудры?

— Калі перастанеш думаць пра жаніцьбу.

* * *

Маці траіх паненак расказала ім пра кавалера.

— Ці ён прыгожы? — спытала васемнаццацігадовая.

— Колькі ён зарабляе? — спытала дваццаціпяцігадовая.

— Дзе ён?! — усклікнула трыццацігадовая.

* * *

— Оля памірылася са сваім Юркам.

— Так, толькі не на доўга: заўтра іх шлюб.

* * *

Маладая жонка дакарае лянівага мужа:

— Саромлюся за цябе: мая мама аплачвае кватэру, тата купляе вопратку, а сёстры ежу. Так далей быць не можа!

— Шчырая праўда, — адказвае гультай, — і твае браты маглі б таксама крыху падкінуць.